

# Чалавек года Кацярына Сінюк,

## якая паказала, наколькі многа могуць зрабіць людзі без дапамогі дзяржавы

Настасся РОЎДА, «Наша Ніва»

Кацярына і яе партал раскрылі каласальны патэнцыял салідарнасці і спагады ў беларускім грамадстве. Дзякуючы ёй — і яе ўменню выкарыстоўваць новыя камп'ютарныя тэхналогіі — дзясяткі тысяч людзей пабачылі, як шмат вакол ДОБРЫХ ЛЮДЗЕЙ. Яна паказала, што быць добрым — па-ранейшаму прэстыжна. Дапамагаць слабым — модна. А ўдалося ёй тое зрабіць, бо яна прапанавала людзям спосаб, як ЛЁГКА І ХУТКА дапамагчы.

Але ў выпадку Сінюк важна і іншае. Яна не проста дапамагае канкрэтным людзям. Яна дапамагае тым, хто, у сваю чаргу, дапамагае пасля дзясяткам іншых. Напрыклад, яна сабрала грошай для інваліда, які навучае іншых інвалідаў працаваць на камп'ютары — і не проста працаваць, а зарабляць на камп'ютары.

Сінюк таксама паказвае, як многа могуць зрабіць людзі без дапамогі дзяржавы, самі, для сябе і для іншых.

«Імёны» бачаць сябе паўнавартасным грамадскім СМІ. Камандзе ўдалося сабраць больш за 40 тысяч рублёў на паўгадавую дзейнасць рэдакцыі і больш за 128 тысяч рублёў — на дапамогу 11 праектам.

Напрыклад, нядаўна часопіс паказаў дзяцей-інвалідаў з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця мінскага дома-інтэрната.

Праз няправільнае харчаванне яны важылі ненатуральна мала: 13-гадовы Вадзім — 13,8 кілаграма, 19-гадовы Мікіта — 13,8 кілаграма, 27-гадовы Арцём — 17,5 кілаграма. Прыкладна 50 дзяцей інтэрната мелі патрэбу ў спецыяльным энтэральным харчаванні, дзякуючы якому яны маглі б набраць вагу. «Імёны» актывізавалі збор сродкаў і патрэбную суму, 62 960 рублёў, сабралі ў рэкордна кароткія тэрміны.

Часопіс бярэцца за самыя розныя сацыяльныя праблемы, вось толькі некаторыя загалоўкі: «18 гадоў на заводзе, заробак — 62 рублі. Гісторыя невідушчага мужчыны, які нясе людзям святло», «Тайнае жыццё Анісы. Як супрацоўніца банка

з Мінска лечыць бяздомных жывёл на закінутым заводзе», «Як хлопец з паралізаванымі рукамі і нагамі зарабляе на жыццё»…

Далёка не ў кожнай гісторыі ёсць опцыя «Націснуць на кнопку і перавесці грошы». Многія расповеды паказваюць балючыя месцы нашага грамадства, а чытач сам вырашае, што яму рабіць з гэтым веданнем.

Героямі матэрыялаў часопіса становяцца людзі з няпростымі лёсамі, якія не здаюцца і кожны дзень змагаюцца за сваё шчасце. Імі можна натхняцца, у іх можна вучыцца мужнасці і чалавечнасці.

***— Распавядзіце пра ваша дзяцінства. Адкуль узялася вось гэтая баявая Кацярына Сінюк, якая зварочвае горы?***

— Я нарадзілася ў Брэсце. Журналістыка мяне прыцягвала яшчэ ў той час, калі сядзела на гаршку. Глядзела навіны і ўсё спрабавала зразумець, як людзі трапляюць у тэлевізар. У восьмым ці дзявятым класе ў нас з'явіўся гурток журналістыкі. Яго вяла настаўніца рускай мовы Аляксандра Ткачэнка, яна і зацікавіла гэтай прафесіяй. З дзявятага класа я ўжо пачала публікавацца ў буйных СМІ.

***— І адразу ўзяліся за праблемную тэму — скінхедаў.***

— Настаўніца калісьці сказала, што журналіст — гэта чалавек, які задае шмат пытанняў. І галоўнае пытанне, якое ён павінен задаваць, — «чаму?». Я гэта запомніла.

Хутка пасля таго, як я пайшла ў гурток, хлопчыка з нашай школы збілі скінхеды за аранжавыя матузкі на красоўках. Яго сям'я звярнулася ў міліцыю, але ім не дапамаглі. Прычым аказалася, што ў нас многіх школьнікаў збіваюць за матузкі ў розных раёнах горада, а міліцыя не прызнае гэтай праблемы. Мой артыкул у «Брэсцкім кур'еры», дзе я тады працавала пазаштатна, выклікаў вялікі рэзананс, і ўлады за праблему ўсё ж узяліся. Напружанасць са скінхедамі сапраўды пачала спадаць. Многія бацькі, чые дзеці пацярпелі, дзякавалі мне, дзіцяці, за тое, што я ўзняла гэтую тэму. Тады я ўпершыню адчула, што словы штосьці значаць. Што можна вырашаць праблему, нават калі нехта не хоча яе прызнаваць.

***— Скінхеды — далёка не адзіная вострая тэма, за якую вы браліся. Ва ўніверсітэце пасля шэрагу праблемных артыкулаў у вас былі праблемы з кіраўніцтвам ВНУ і КДБ. Было і такое, што вы атрымлівалі ананімныя пагрозы жыццю. Як бацькі ставіліся да вашай дзейнасці? Ці адчувалі падтрымку з боку грамадства?***

— Раней я чакала нейкай удзячнасці за вострыя матэрыялы, а цяпер не чакаю. Мне гэта не трэба. Журналіст павінен рабіць сваю працу сумленна, нягледзячы на тое, як яго ацэньваюць. У праекце «Імёны» я, бадай, упершыню бачу, што журналісты атрымліваюць нашмат больш падтрымкі, чым крытыкі. І тое, што чытачы адпраўляюць на заробак журналістам свае грошы, — таксама паказчык. Добрую журналістыку і добрыя справы людзі падтрымліваюць.

Бацькі таксама мяне заўсёды падтрымлівалі. Нават калі аднойчы маміну калегу ледзь не звольнілі пасля аднаго майго артыкула. Маці перажывала, казала, каб я прыбрала свой матэрыял. А я адказвала, што калі ўсё напісана праўдзіва і, больш за тое, яшчэ і праблема вырашаная, то няма чаго перажываць.

Калі ўлетку мы запускалі краўдфандынгавую кампанію на працу часопіса, бабуля, мама і брат былі першымі, хто перавёў па 30 рублёў.

Нейкага моцнага ціску на сябе ад каго б то ні было я ніколі не адчувала. І для мяне гэта паказчык: значыць, я сваю работу выканала правільна.

***— Гэтае жаданне — перамагчы сістэму — адкуль яно ў вас?***

— У праекце «Імёны» мы не хочам перамагаць сістэму, спрачацца з ёй ці нешта даказваць. Мы паказваем існуючыя праблемы і хочам стварыць сваю сістэму, у якой людзі самастойна арганізоўваюцца для іх вырашэння. Дзяржава сваю работу выконвае, а мы — сваю.

Калі я працавала на *TUT.BY* (ад 2011 да 2015 года Кацярына працавала журналістам-рэдактаркай партала. — НН), у мяне была звычка чытаць форумы. Я не магла зразумець, чаму людзі столькі пішуць, адкуль у іх час на гэта. У пэўны момант мне стала цікава, ці могуць людзі не толькі пісаць, але і ствараць.

***— Чаму сышлі з TUT.BY?***

— Мне захацелася развівацца далей. Больш часу аддаваць не навінам, а кантактаваць з людзьмі і паказваць герояў. І калі зразумела, што краўдфандынг у Беларусі пачынае развівацца, супалі два мае жаданні — займацца гісторыямі і дапамагаць. *TUT.BY* я ўдзячная за добрую школу журналістыкі.

***— Кожная гісторыя «Імён» праходзіць праз вас. Што вы пры гэтым адчуваеце?***

— Усе нашы героі сутыкаюцца з цяжкасцямі. Чытаць пра гэта, можа быць, не проста, спрацоўвае




псіхалагічная абарона. Але заўсёды знаходзяцца героі, якія вырашаюць гэтую сітуацыю. Часта мы ў рэдакцыі здзіўляемся іх мужнасці і пачынаем бачыць праблему крыху па-іншаму. Праблемы — гэта нармальна. Іх проста трэба вырашаць.

***— Як грамадству трэба ставіцца да людзей з інваліднасцю?***

— У нас ёсць адзін герой, які ўжо ўвайшоў у маё жыццё і ў жыццё рэдакцыі, — Саша Макарчук. Ён кіруе камп’ютарам пры дапамозе голасу, таму што ўжо шэсць гадоў яго цела паралізавана. Калі мы камунікуем, забываю, што з ім нешта не так. Калі мне хочацца пажаліцца на стомленасць, я тэлефаную Сашу, і мне ні на што больш жаліцца не хочацца. Менавіта ён для мяне Чалавек года. І не толькі таму, што ён сам пераадолеў уласныя страхі і дэпрэсію.

Саша пачаў займацца дабрачыннасцю. Звярнуўся неяк да мяне і кажа: «Каця, пасля таго, як вы пра мяне напісалі, да мяне сталі звяртацца сваякі многіх інвалідаў. Кажуць, што паралізаваныя год за годам ляжаць на ложках і думаюць, што жыццё скончана. Просяць, каб я навучыў іх таксама карыстацца камп’ютарам. Я б запусціў нейкую анлайн-школу па дыстанцыйным навучанні інвалідаў, але няма грошай».

**«Імёны» бачаць сябе паўнавартасным грамадскім СМІ. Камандзе ўдалося сабраць больш за 40 тысяч рублёў на паўгадавую дзейнасць рэдакцыі і больш за 128 тысяч рублёў на дапамогу 11 праектам.**

«Імёны» абвясцілі збор сродкаў на запуск Сашавай школы і сабралі за тыдзень амаль 5500 рублёў. Налета школа пачне працаваць.

Нашы героі ад нас нічым не адрозніваюцца, яны многаму нас вучаць, матывуюць. Я бачу, наколькі пазітыўна іх успрымаюць. Для мяне паказчык, што людзям цікавыя найперш чалавечыя якасці тых, з кім яны жывуць у адной краіне.

Ёсць валанцёры, якія дапамагаюць са шкадавання, але гэта няправільна, бо не можа вырашыць праблему. Мне падаецца, што здаровае грамадства тое, дзе з людзьмі з абмежаванымі магчымасцямі разам, на роўных вырашаюць праблемы.

***— У вашых матэрыялах чытаецца вялікая любоў і да жывёл.***

— Да праектаў дапамогі жывёлам я стаўлюся гэтак жа, як да іншых. Мяне вельмі крыўдзіць, калі пад зборам сродкаў для жывёл з’яўляюцца каментары кшталту: «Дапамажыце лепш людзям, чаго вы коткам дапамагаеце». Гэта не праблема аднаго чалавека, гэта праблема нашага грамадства, якое лічыць, што гэтым трэба дапамагаць, а гэтым — не трэба. Бяздомныя жывёлы — вялікая праблема, таму што няма закона, які б іх абараняў, няма ніякай дзяржаўнай праграмы па іх стэрылізацыі, няма

буйных — і дзяржаўных, і прыватных — прытулкаў. І тут без уладаў наўрад ці штосьці ўдасца вырашыць. Хаця… Мы б знайшлі праграму, якая б займалася стэрылізацыяй жывёл на сістэмным узроўні, і дапамаглі ёй зборам сродкаў на гэта. А ўлады — заканадаўчымі мерамі.

***— Што для вас найгалоўнае ў жыцці?***

— Любоў. Каханне ў асабістым жыцці, любоў у працы. Гэта тое пачуццё, якое, мне падаецца, рухае ўсё.

***— А ў людзях?***

— Гуманізм, сістэмнае мысленне і рацыянальны падыход.

***— І што б вы назвалі найгалоўным у вашай працы?***

— Тое, што вялікая колькасць незнаёмых людзей вучыцца з нуля ствараць штосьці самастойна ў сацыяльнай сферы. Працаваць самім, а не казаць пра тое, што толькі дзяржава і ўлада павінны нешта рабіць.

Адзін з нашых паспяховых праектаў звязаны з фінансаваннем сацыяльных няняў на Гродзеншчыне. Пару месяцаў таму мы расказалі пра тое, як у шпіталі Гродна ляжаць у закрытых боксах хворыя дзеці, у якіх няма бацькоў. У медперсаналу няма часу для таго, каб пастаянна знаходзіцца з імі, а дзецям патрэбны не толькі медыкі, але і няні, якіх у беларускіх шпіталях няма як штатных адзінак. Пры гэтым у суседніх боксах ляжалі такія ж дзеці, з якімі побач заўсёды былі мамы.

Адзіная такая няня ў Беларусі ў якасці эксперыменту якраз і прыйшла працаваць у гэты шпіталь. Яе працу аплачваў Чырвоны Крыж, але грошы скончыліся. Мы абвясцілі збор сродкаў на гадавы заробак не адной, а дзвюм нянямм. За два тыдні чытачы сабралі грошай на аплату цэлага года работы… сямі няняў! Цяпер яны працуюць не толькі ў шпіталях Гродна, але яшчэ ў Навагрудку, Лідзе, Слоніме і Ваўкавыску. Людзі самі плацяць ім заробак. Мы разам з грамадствам фактычна з нуля стварылі інстытут няняў. Налета хочам дапамагчы Чырвонаму Крыжу распаўсюдзіць гэты досвед па ўсёй Беларусі.

Цяпер, напрыклад, збіраем сродкі на тое, каб адзіны у Беларусі фонд («Геном»), які дапамагае дзецям з рэдкімі генетычнымі захворваннямі, меў сталае фінансаванне на найбліжэйшы год. Калі будзе гэты фонд, то дзеці з невылечнымі захворваннямі будуць жыць лепш. Мы расказваем чытачам пра тое, як у нашай краіне жывуць такія сем'і і як шмат залежыць ад гэтага фонду, і людзі дапамагаюць. Ці яшчэ прыклад. Збіраем на працу самай вялікай у Мінску арганізацыі — клубнага дома «Адкрытая душа», што займаецца сацыялізацыяй людзей, якія выйшлі з псіхіятрычных шпіталёў. Цяпер арганізацыя засталася без фінансавання. Чаму важны гэты праект? Таму што людзі, па якіх бы прычынах яны ні трапілі ў псіхбальніцу, выйдуць і будуць ведаць, як ім з нуля будаваць жыццё.

***— Хто быў сярод пачынальнікаў «Імён»? Як выглядае ваша каманда сёння?***

— Побач са мною былі журналісты-аднадумцы, але, уласна кажучы, пачынала адна. У рабоце з праектамі дапамагае краўд-платформа *Talaka.by*, сэрвісам для збору сродкаў якой мы карыстаемся. Дарэчы, мы надзвычай удзячныя яго кіраўніку Яўгену Клішэвічу.

Ужо потым пачалі прыходзіць пазаштатныя аўтары. Ва ўсіх ёсць асноўная праца. Сёння касцяк каманды — два чалавекі. Я і Слава Корсак. Цягам гэтых васьмі месяцаў нам дыстанцыйна дапамагала Наталля Прыгодзіч з Гомеля.

***— Як бачыце будучыню праекта?***

— Тая мадэль, якую мы прапаноўваем людзям, аказалася нават больш запатрабаванай, чым мы меркавалі. Трэба рабіць «Імёны» яшчэ больш эфектыўнымі. Мы хочам пашыраць каманду да пяці чалавек і адпаведна павялічыць бюджэт. Другое — нам патрэбны фонд, які б займаўся сістэмным пошукам праектаў па краіне, аўдытам некамерцыйных арганізацый, магчыма, зборам сродкаў. «Талака» — гэта ўсё ж такі вітрына.

Бліжэй да Новага года прыходзіла шмат лістоў ад кампаній, дзе яны пішуць, што хочуць перадаць падарункі, рэчы для каго-небудзь. І яны пытаюцца, ці можам мы іх перадаць. Ім хочацца, каб была структура, якая дакладна ведае, каму патрэбная дапамога. Але пакуль што мы толькі часопіс, дзе з гісторыямі працуюць журналісты.

***— Хто тыя людзі, што дапамагаюць «Імёнам» і героям, пра якіх вы пішаце?***

— Мы шмат кантактуем з нашымі чытачамі. У мяне такое ўражанне, што палова тых, хто пераводзіць грошы, — праграмісты. А так — самыя розныя людзі. Інвалід, які амаль не рухаецца, таксама адпраўляе нам грошы. Бюджэтнікі, банкіры, бізнэсмены, сілавікі, самі журналісты і шмат іншых. Усе пераводы робяць фізічныя асобы.

# Пожалуйста, звездите!

Окончание. Начало в № 4 (118)

**Порассуждав в прошлом номере «А», откуда у нас берутся журналисты, хочется взять на себя смелость и выдать субъективное суждение о том, куда они потом пропадают.**
**Как думаете, можно ли говорить о нашей профессии: «Пациент скорее жив, чем мертв»?**
**И еще: нужен ли «пациенту» рецепт для спасения (чтобы в стране все-таки загорались звезды отечественной журналистики)?**
**Дело в том, что у меня такой рецепт есть. Но, как я уже говорила, рекомендован он только молодым и рьяным.**



Марина БЕЛЯЦКАЯ

## Из практики

Чтобы как-то перейти к разговору, как в конце-то концов стать звездой, расскажу о своем личном опыте общения с теми, кто если и не мечтал о звездности, то во всяком случае стоял на тропе к ней.

**Случай первый, обычный.** Пришла ко мне практикантка с заочного отделения журфака БГУ, третий курс. Молодуха, кровь с молоком, лет тридцати. Типа газетчица, но пока, правда, ни разу (!) по профессии не работала. Она трудилась в гастрономе, в молочном отделе — рядом с Домом прессы.

Зашла она в кабинет. Постояла, помялась и, краснея, выдавила из себя:

— Я к вам.

Это все, что она сказала четко и ясно. Писать не захотела: «Ммм, эээ… А можно не писать?» Поискать темы не умела: «Ммм, эээ… А как искать?» Ну и так далее. В итоге я усадила девицу за свой компьютер, попросила сочинить что угодно — «акварельку», любое наблюдение или случай из жизни. Думала, распишется. Она трудилась над этим около 40 минут и не написала ни строчки. Тогда я сказала, что, мол, сама вот пишу о переработке мусора и пусть она просто вспомнит, как выглядит мусорный бак в ее дворе, и сортируют ли мусор ее соседи, и если нет, то — как она думает, почему. Сказав это, я схватила соседа по кабинету за воротник и потащила на коридор, так как он уже закипал от злости, глядя на эту румяную практикантку. Мы пошли обедать, и я, честно говоря, думала, что убью двух зайцев: и перекушу, и использую написанное как иллюстрацию к собственному тексту. Вернулись через час. На экране — полторы строчки. Оказалось, она еще и не умела пользоваться компьютером — совсем.

Это было в году 2005-м. Девушка приходила в наш кабинет трижды. Потом сказала, что заболела. …Я так и не стала ее наставником. Отпустила

восвояси, обещала «практику» подписать, думая, что все равно моя совесть чиста: работать такая не будет.

Похожие студенты были во все времена. Но раньше от них вреда было меньше или не было совсем, так как они куда-то исчезали после учебы и никто о них уже не вспоминал. А сейчас они могут устроиться «в органы и учреждения» или их пресс-службы и начнут отравлять жизнь репортерам. А еще хуже — станут функционерами в «соответствующих учреждениях» и займутся «изучением функционирования средств массовой информации». Тем более что прецедент у нас уже есть…

…Но вернемся к моей практике.

**Случай второй** — совсем короткий. Мне пришлось поработать с выпускницей журфака БГУ. Она попробовала написать две статьи, страдала перед написанием и после, а через месяц перешла в менеджеры по рекламе и там очень хорошо научилась находить заказчиков. Зарабатывала больше меня.

**Третий пример** — от ЕГУ. Мы ведь помним, что журналистов готовят еще и в Вильнюсе. Там все иначе, есть потрясающие выпускники, но ведь есть же и… нюансы.

Итак, жила-была студентка третьего курса журфака ЕГУ. В 2010 году она работала на выборах — волонтером. Я ее немного знала, поскольку пересекались на разных мероприятиях. Как-то мы с ней разговорились. Девушка плакалась: сессия на носу, а она полгода не может выполнить практическое задание — к зачету нужно написать интервью «*с кем-нибудь*». Она выбрала «*кого-то*» более-менее симпатичного и известного (не скажу, кого), но за полгода не придумала, как к нему подкатить и о чем расспрашивать. Я самонадеянно посмеялась и наболтала всякого возможного, о чем бы можно было бы с этим известным поговорить. Из наболтанного, думаю, реально было выбрать пару-тройку вопросов и сформировать из них общую направленность разговора. Много ли студентке надо? Девушка воодушевилась, потом задумалась, покрутила пальчиком по ладошке и говорит:

— А… вы его знаете?

Я сказала: «Знаю», — ведь его почти все из нашей братии знают.

— А не могли бы вы ему позвонить, договориться, вкратце описать, о чем будет разговор, и сказать, что вот, мол, я приду…

— …Я приду? — изумилась я.

— Нет-нет, — замахала руками моя собеседница, — не вы, а я! Конечно же, я! Вы только позвоните и договоритесь, а?.. А то я стесняюсь.

Ну, вот… как-то так. Вот и весь случай. …Третий курс!

Девушка замечательная, но я никак не пойму, зачем она пошла на журфак. Зачем она как-то добралась до третьего курса… Способ ее продвижения от сессии к сессии, наверное, был какой-то совсем уж экзотический. Уверена, что интервью так и не было написано. И до сих пор эта девушка не пишет нигде, кроме фейсбука. Она по-прежнему волонтерит и активно клеймит всех, кто не разделяет политических взглядов ее начальников. Знаете, я ее не только не осуждаю, а даже в некотором роде хвалю. Хорошо, что она фонтанирует телеграфной строкой всего лишь в фейсбуке.

## А вот в наше время! О-о-о!

Вот тут в самый раз начать популярный для журналистов нашего возраста стон и повторить за Масяней: «А вот в советское время — о-о-о-о»! И между прочим, если действительно вспомнить советское время, то Масяня с этим своим ироничным «о-о-о!» совсем не права, потому что местами пресса была на самом деле «о-о-о!» Некоторые газеты были не хуже, чем пресса, глотнувшая воздух свободы в начале 1990-х.

При еще трижды орденоносном генсеке Брежневе печатные средства массовой информации были куда популярней и честней, чем теперь, и тиражи газет и журналов впечатляли. Советских СМИ было много. Меньше, чем в 90-е, но все равно достаточно. И они были прибыльными. Я где-то читала, что главная газета в СССР «Правда» (тираж 10 млн приносила доход, сопоставимый с крупным московским универмагом. Журналисты были уважаемыми людьми, они хорошо зарабатывали и устраивали своих детей на журфак или в институт Международных отношений. Это были времена, когда «Новый мир», например, передавали, как эстафетную палочку. Газеты и журналы выписывали «на троих». Три семьи — разные издания, потом менялись, в итоге получалось, что читали по очереди практически все, что было написано стоящего в периодике. Уже позже, в 90-х, я приносила пару экземпляров своей газеты соседям, они прочитывали и передавали еще кому-то…

Конечно, есть тому и объективное объяснение: раньше мы не были так заняты своей собственной персоной в соцсетях. Нам неоткуда было что-то интересненькое узнать. И делать нам было особенно нечего. И наконец, сами СМИ работали — пусть в рамках некоторой цензуры, пусть с передовицами на первых полосах, но ведь с такими авторами, как Песков и Аграновский!

А немец Гюнтер с его журналистскими расследованиями в «Литературке»? Передовицы-передовицами, но внутри газеты по большому счету писали как хотели. Переведенцев, Ваксберг, Жванецкий…

Пропаганда не распространялась на всю редакцию, она была (и не слишком-то обременительно) представлена в отделе, который так и назывался: «Отдел пропаганды». И отдел этот был сам по себе. А остальная редакция ни на один бок сильно не заваливалась. И был азарт: сказать так, чтобы поняли, увидели и поразились. Раньше люди приходили на летучку, предлагали свои темы и, как правило, главный редактор, не находясь в такой вот жесткой конкуренции и политическом противоборстве, говорил: «Ну, давай». Или он говорил: «Ну да, гм… В принципе — попробуй». Так даже программой «Время» руководили (правда, это уже позже, после Брежнева). Моя подруга жила неделю в таборе, чтобы написать про жизнь кочующих по Минской области молдавских цыган. Они тогда повсюду бродили и дачников пугали.

А как у нас на телевидении готовились материалы для студии «Политика»? А телепрограмма «Крок», а журнал «Парус»? Нам говорили: «Ну, поезжай, сделай. Интересно, как ты эту тему повернешь!» И мы ехали и делали.

И потому среди нас были звезды.

А еще, помните? Всего несколько лет существования российского НТВ стали эпохой. Мы увидели не только другие «Новости», но и иной уровень телевизионной культуры. Энтэвэшники успели породить телезвезд, а те (еще позже) успели проконсультировать молодые оэнтэшные «Наши новости». Мы даже ненадолго увидели нормальные белорусские выпуски, где могли бы, как и тогда на НТВ, родиться уже наши собственные телезвезды. Но на ОНТ «эпоха» не продлилась и года, и потому там не успел никто серьезно прославиться. Итог был и у нас, и у них одинаковый. Но вот в чем именно наша проблема? Мне кажется, что мы всегда не успеваем родить звезд на будущее.

Все это я говорю потому, что сейчас у нас в стране с почти 10-миллионным населением нет ни одного не однобокого, по-настоящему общенационального ежедневного СМИ. Не окрашенного ни в какой цвет и со своими громкими именами. У меня есть определенные основания делать вывод, что журналистика такого типа — весьма распространенное явление в нынешней действительности и, конечно, не только у нас. Но там, где профессионалы успели заявить о себе, превратив фамилию практически в брэнд, где географически больше места, больше денег и разнообразие СМИ, там есть еще небольшой задел для относительно свободного выражения любой мысли. У нас — уже нет. Наша мысль может свободно появиться или прерваться в том месте, где ее разделяет или не разделяет учредитель. И как это скажется на общественном (читай моральном) здоровье будущего поколения взрослых белорусов, предполагать не берусь. Но скажется непременно.

## Конкурирующие фирмы

Год назад моих российских коллег не то чтобы обеспокоила, а просто взбудоражила новость о том, что в Польше Евросоюз намерен создать некий русскоязычный канал. Якобы для того, чтобы Россию и русскоязычную территорию за ее пределами можно было снабжать «свободной и правдивой информацией». Коллеги были удивлены тем, что среди желающих работать на том телеканале оказались люди, резко осуждающие (или завидующие финансированию) Russia Today. Эти люди хотели найти работу на евросоюзовском ТВ и активно мониторили вопрос о его будущем руководстве (с целью попасть туда в первых рядах). Возмущаясь прямолинейностью пропаганды на Russia Today, сами (с удовольствием!) были готовы трудиться на таком же зеркальном телеканале.

Если кто-то скажет, что «это у них», а у нас такого нет, осмелюсь возразить. Думая не столько об информировании, сколько о финансировании, у нас тоже очень часто журналисты вынуждены собирать исключительно «свободную и правдивую» инфу, поминутно помня о формате ресурса, который берет на себя право утверждать темы и угол зрения. Причем не всегда этим утверждением занимаются люди, имеющие отношение к нашей профессии. И мы вынуждены с этим мириться.

> ***При еще трижды орденоносном генсеке Брежневе печатные средства массовой информации были куда популярней и честней, чем теперь, и тиражи газет и журналов впечатляли.***

Всем известно: СМИ, которые призваны передавать «свободную информацию» на аудиторию других стран, всегда (особенно поначалу) очень хорошо финансируются, так как это не просто работа с новостью, а к сожалению, как ни крути, уже пропаганда. И в такой ситуации, опять же как ни крути, приходится говорить об информационной войне. У нас эта война идет уже давно. И сидят журналисты, каждый в своем окопе, по обе стороны идеологических баррикад, тоже давно. И уже, наверное, даже представить себе не могут, что (вдруг!) мог бы существовать какой-то ресурс по типу СМИ и там бы (ну вдруг!) можно было бы работать вместе и говорить правду обо всем и обо всех.

Ведь именно об этом пишут коллеги на форумах — да еще в таких выражениях, что даже цитаты в подтверждение не подберешь. Сплошной «тарарам!» и чья-то мать.

## Почему на журфаке не будет однофамильцев

И сейчас — вот вам неожиданный, но вполне логичный в этом месте поворот: в результате всего этого журфак скоро останется без детей звезд и не будет рождать новых звезд.

Вы подумаете: «Ну? И где тут связь?» Блатные чьи-то дети и… будущее профессии?!

Вы удивитесь, но связь есть: дети звезд не обязательно блатные, но в нашей ситуации это — лакмусовая бумажка. Раз профессионалы своих детей в журналистику уже не отдают, не советуют, отговаривают, значит, они чувствуют (знают): будущего для детей в этой профессии нет. А раз профессия теряет авторитет, то и… какие уж тут звезды?

А ведь раньше-то как говорили: «На журфаке нет однофамильцев!» Если это наблюдение до сих пор еще верно и фраза пока еще на слуху, то какие именитые фамилии мы можем услышать на нынешнем журфаке? Я имею в виду ситуацию, когда у нас в звездах ходит кто-то «с небритостью из ящика»?

Кстати, пора уже его рассекретить. Моя родственница имела в виду политического обозревателя и ведущего телеканала ОНТ Алексея Михальченко. Если кто-то изумится или возмутится, что я его вообще тут упоминаю, то это совсем зря: первые же его эфиры имели по 300 тысяч просмотров в Интернете. Этот человек настолько уверен в своей звездности, что становится совсем страшно за профессию.

*Мы всегда не успеваем родить звезд на будущее.*

Г-н Михальченко настолько звезда, что у него, как у Парфенова, берут интервью, и публикуют его на сайте официального Союза журналистов. В этом интервью звезда так лихо хвастается: как он в своих программах все самостоятельно и здорово придумал и так у него, не имеющего высшего образования, и без институтов все здорово на экране получается. И все это с барского плеча, и все это с такой как бы ленцой — и занят он, и не царское-де дело, да так и быть…

## Субъективный взгляд на звездность

Когда есть такие примеры белорусской звездности, как упомянутый телеведущий, хочется уже все-таки определиться: кто же все-таки такая — если не наша, то в принципе журналистская «звезда»?

Я не знаю определения, но если подумать, то формулировка получится очень простая. Журналист может по-настоящему «звездить» только благодаря своей личности. И это, по-моему, все.

Не способностью убеждать или аргументировать, не лозунгами, не позицией, не даже преданностью идее, а всего лишь способностью быть самим собой. Плюс обладать умением найти, собрать и подать какие-то интересные всем (но прежде всего самому себе) истории и факты — этим выделяются журналисты, которых именуют звездами. Мы ведь всего лишь прослойка между читателем (зрителем, слушателем) и фактами, между обывателем и властью, между гражданским обществом и государством, между разными социальными группами людей и их культурой и т. д.

А профессионализм звезды — это способность проявить свои собственные, работающие на зрителя или читателя интонации. Чтобы сказать вот так: «Что тво-рят кана-а-адцы!» — нужно просто быть Озеровым. А чтобы так: «ООО!-ёёёёёй!» — нашим Сергеем Новиковым.

Недаром ведь некоторые пытаются скопировать чужую индивидуальность — отращивают щетинку и вещают с неким пренебрежением на манер российского Леонтьева, сглатывают между фразами и гипнотизируют совиным взором на манер Доренко или таращат глаза и ходят согнувшись, как Парфенов, или ладошки складывают, как Молчанов. Не буду называть фамилии наших «двойников», но, думаю, не я одна такая «предвзято наблюдательная». Тем более что скопировать ни манеру поведения, ни способ подачи информации, ни тем более интеллект никогда никому не удастся. Можно проявить только что-то свое.

Мне, например, один человек говорил в мою бытность (после журфака) в газете «Автозаводец» и параллельно на заводском радио: «Ты чего вещаешь, как тетка в ГУМе о новых поступлениях в обувной отдел? Ты два слова написала, сказала, остальное сама рассказывай. Потом с абзаца… Обозначаешь фразу и давай, рассказывай! Не пиши или не учи текст (для радио), просто узнай, и то, что знаешь, мне, слушателю, поведай! Не задавай вопросы, разузнай как можно больше по теме (и о собеседнике) и просто разговаривай — с фактами на руках. И тогда почти сразу попадешь в нужное русло, из которого выстрелишь — точно в меня».

И человек этот был не журналист даже. Просто мастер из цеха метизов. Он хотел, чтобы с ним именно так разговаривали в его заводской газете и на радио. Старым репортерам он не решился бы советовать, а мне зеленой сказал.

Ну а если не встретился такой человек (на журфаке, в жизни), не сказал: «Рассказывай!», то кто юному дарованию все это подскажет? Как додуматься до какой-то мелочи, когда даже не у кого

не то что спросить, но и подсмотреть? Остается надеяться, что само выстрелит. Но само стреляет редко. В наших СМИ это очень чувствуется. Вместо фактов используют доводы, вместо всей информации — рамки формата. И уже даже неудобно в сотый раз напоминать, что журналист не имеет права принимать чью-то сторону, не имеет права махать политическим флагом…

Распознать, где идеология, где пропаганда, — невероятная сложность для молодого и рьяного ума. А уж работать там, где еще и интересно — вообще роскошь, которая вас может испортить окончательно или, наоборот, закалить на пути к известности. Поэтому всегда следует помнить о стандартах профессии.

Если говорить о наших звездах, я бы вспомнила про казавшуюся кому-то смешной, но, к сожалению, ушедшую в лучший мир Элеонору Езерскую — она умела не существовать, а жить в своей теме. И не важно, что это были всего лишь какие-то ее «музыкальные моменты». Тема тут не имеет значения. Элеонора была большой странной звездой, а ведь звезды всегда свободны. Они даже не думают, как они выглядят в глазах коллег или на экране, в своих текстах или в своих рассуждениях на радио. Поэтому они то головой трясут, то, наоборот, каменеют, задумавшись, то пишут вроде как «отсебятину», но такую, которая почему-то остается в голове надолго. Во время интервью они забывают кто есть кто и «вынуждают» собеседника признать разговор «на равных». Они во все вгрызаются — в свои темы, им важна каждая деталь и каждая мелочь, и так хочется, так сильно хочется рассказать, что совсем не думается о том, как выглядит мимика, жестикуляция или какой-то там темпоритм. Они пишут и говорят, что думают, и делают это по-своему, и это подкупает. Именно такой журналист запоминается. Именно поэтому с ним ждут очередной встречи и он становится «звездой». Но звезды могут сиять долго только в своей стихии и никогда — в упряжке.

Это, конечно, не готовый рецепт для звездности и даже не констатация. Это версия. Наверное, дело происходит именно так.

## Как не дать умереть журналистике

Московские коллеги, которых многие не любят, но постоянно поминают в качестве авторитетов, говорят про свою прессу: дело в основном плохо. А ведь у них есть еще пара хороших телеканалов, несколько газет и немного приличного радио.

По мнению российских звезд, журналистика их страны умирает. И умирает она потому, что те, кто формирует информационную политику современных СМИ (и это не Путин), «не способствуют в принципе полнокровной жизни прессы».

Это я привела мнение Александра Любимова, который, как все помнят, профессионал и звездил в свое время весьма ярко: и во «Взгляде», и создавая ВИД. Он сейчас в тени, но в директорате наиболее приличного из российских СМИ — РБК-ТВ и, думаю, знает, о чем говорит.

**_Журналист может по-настоящему «звездить» только благодаря своей личности._**

«Эпоха журналистики, на мой взгляд, закончилась, — сказал Любимов каналу «Дождь». — Не только на телевидении, но в принципе, остались только звезды — в той или иной степени. Кто-то там — интернет-звезда, кто-то — телезвезда, кто-то пишет колонки и еще что-то делает. Но это люди — сами по себе. Их мнение кому-то одному интересно или — сотне, тысяче, может, даже миллиону… А все остальное — пропаганда либо контрпропаганда».

Эта ситуация легко транспонируется на нас.

Если спросить про журналистику в целом и попытаться посмотреть с точки зрения массовой информации, то картина, и правда, печальная. Если посмотреть на ситуацию с точки зрения конкретного человека, который работает в СМИ, не все безнадежно. Это — разные позиции, мы просто смотрим под разным углом на одну и ту же проблему.

Конечно, журналистика еще жива, но она попала в сложную ситуацию, когда вы можете хорошо работать только в средстве массовой информации, которое близко вам по взглядам. И если такого СМИ нет, то вам весьма некомфортно и сложно будет стать личностью в СМИ.

На первый взгляд все это кажется идеализмом… мечтать в наше время о комфорте в прессе или в пунктах иного применения (подразделениях-учреждениях, предложенных журфаком). Но согласитесь, пропагандисты с обеих сторон тоже ведь… никогда не зазвездят. А уж как угодить немногочисленному и разношерстному работодателю с сайтов и тому подобного — вообще вопрос. У них запросы такие, что непонятно, где они вообще собираются себе людей набирать.

Поэтому торжественно и не без помощи товарища Маяковского хочется сказать уже даже не о прессе в целом, а отдельным пишущим людям: «Послушайте!»…

…Или без поэтического пафоса? — только студентам: мол, вы ж поймите, если «звезды НЕ зажигаются…»

Словом, чтобы спасти профессию, пожалуйста, звездите хоть вы!



# Валянцін Акудовіч:

**Беларускі Калегіюм, які сёлета адзначае дваццацігоддзе, быў створаны як альтэрнатыва мясцовай універсітэцкай сістэме навучання. Але сёння нефармальная адукацыя і самаадукацыя даволі запатрабаваныя. У прагнага да ведаў чалавека шмат варыянтаў, дзе іх атрымаць: анлайн-курсы, адкрытыя лекцыі, воркшопы. Якое месца Беларускі Калегіюм займае сёння ў сістэме актуальных адукацыйных ініцыятыў? Пра гэта размова з адным з яго заснавальнікаў і куратарам аддзялення філасофіі і літаратуры Валянцінам Акудовічам.**

# Дзіўна, што яшчэ даволі шмат маладых людзей абіраюць сабе за прафесію гуманістыку

— Раўнуючы з іншымі нефармальнымі інстытуцыямі, нашае доўгалецце нават нас саміх уражвае. Дарэчы, стваральнікам Калегіюма і яго першым кіраўніком шаснаццаць год быў кандыдат філасофскіх навук Алесь Анціпенка. Нельга не згадаць і Ігара Бабкова, роля якога на пачатку фармавання нашай установы таксама была вельмі значная.

Шмат каго тады ўжо не задавальняла ўніверсітэцкая адукацыя. Але ў першыя гады незалежнасці думалася, што пакрысе яна трансфармуецца адпаведна сучасным цывілізацыйным стандртам. Толькі з прыходам новай ўлады вельмі хутка стала зразумела, што нас чакае не аптымістычная трансфармацыя, а татальная кансервацыя савецкага адукацыйнага наратыву. Тады да іннавацыйнай задачы Калегіюма была далучаная яшчэ адна важная справа — фармаваць і захоўваць маладую нацыянальную эліту да той пары, калі сітуацыя пераменіцца на лепшае…

Добра, што ў тыя першыя гады мы не ведалі, колькі нам трэба будзе чакаць гэтых зменаў…

Яшчэ звярну ўвагу на адзін момант. Калі іншыя нефармальныя інстытуцыі вучаць нейкім пэўным навукам, дык мы перадусім спрабуем фармаваць веды Беларусі пра самую сябе і ўвесь сусвет.

***— Матывацыя студэнтаў, якія навучаюцца ў Калегіюме, зразумелая: у складзе выкладчыкаў багата вядомых прозвішчаў. Але якая цікавасць менавіта ў выкладчыкаў? Што могуць атрымаць вядомыя літаратары, мастакі і навукоўцы ад камунікацыі з моладдзю?***

— За ўсе гады толькі адзін чалавек адмовіўся ад прапановы, калі я яго запрасіў прачытаць курс на аддзяленні філасофіі і літаратуры. І зусім не з абыякавасці да Калегіюма — ён займаў высокую пасаду ў акадэмічнай інстытуцыі і тады не быў гатовы да верагодных рэпрэсіяў улады.

Да месца заўважу, што за гады ніхто дабрахоць не сыйшоў з Калегіюма, калі не лічыць некалькіх канфліктных сітуацый, якія не былі звязаныя з ім як з інстытуцыяй. Разам з тым я не магу сфармуляваць універсальны адказ, бо нават адносна сябе не здольны тое зрабіць: чаму я тут ужо дваццаць год? Відаць, нам проста сэнсоўна і ўтульна ў такім неверагодна таленавітым хаўрусе рабіць агульную справу. Зрэшты, выкладаць у Калегіюме — гэта, як з гадамі высветлілася, досыць прэстыжна. І шмат хто яшчэ з разумных і таленавітых хацеў бы да нас далучыцца, толькі нашыя магчымасці вельмі абмежаваныя. Аб чым я ўвесь час моцна шкадую.

***— Некаторыя з выкладчыкаў таксама вядуць занятки на іншых нефармальных адукацыйных платформах: Лятучы ўніверсітэт, каледж ECLAB. Чым адрозніваюцца праграмы ці канцэпцыя ў Беларускім Калегіюме?***

— Пра канцэптуальнае адрозненне я ўжо казаў вышэй. Хіба яшчэ заакцэнтую: мы прынцыпова беларускацэнтрычныя. І хаця ў нас і знаку няма нейкай моўнай сегрэгацыі, але беларуская мова ў Калегіюме дамінуе. Што зусім не замінае чытаць лекцыі і ладзіць семінары рускамоўным выкладчыкам. Як і рускамоўным студэнтам атрымліваць нашы сертыфікаты.

***— Якія аддзяленні Калегіюма карыстаюцца найбольшым попытам?***

— Прабачце, але мне, відаць, было б некарэктна нейкае аддзяленне высоўваць наперад. Тым болей што ў розныя гады бывала па-рознаму. Дарэчы, як і цяпер: леташні набор літаральна ўразіў нейкім шалёным выбухам цікавасці да журналістыкі і еўрапеістыкі (новае аддзяленне). Хаця ў кожным разе вырашае не колькасць тых, хто паступіў, а колькасць тых, хто скончыў Калегіюм. Зрэшты, і гэта не галоўны крэтэр, бо і адзін таленавіты студэнт потым можа зрабіць для Беларусі больш, чым цэлы курс. Дзеля прыкладу згадаю хаця б Глеба Лабадзенку.



***— Ці заўважалі вы, як уплывае сітуацыя ў краіне і свеце на цікавасць абітурыентаў да розных аддзяленняў?***

— Натуральна, увесь час на гэта зважаем. Калегіюм пачынаў сваю працу, калі не тое што інтэрнэта, кампутараў лічы не было. Саветызаваная моладзь тады яшчэ пераважна заставалася адлучанай як ад сусветных ведаў, так і ад нескажоных ведаў пра Беларусь. І таму нашай найпершай задачай было злучэнне маладых людзей з гэтымі ведамі. Натуральна, на тую пару самымі папулярнымі былі гістарычныя курсы. Але са з'яўленнем інтэрнэта сітуацыя пачала радыкальна мяняцца. Цяпер няма праблемы хоць з якой інфармацый. Уся сусветная спадчына і найноўшае — на адлегласці працягнутай рукі да манітора. Зразумела, якімі б інфармаванымі ні былі нашыя выкладчыкі, яны не могуць канкураваць з тым, што прапаноўвае віртуальная бібліятэка. З гэтага і паўстала надзвычай вострая праблема: што мы можам даць студэнтам такога, чаго няма ў «кампутары»? Пэўны адказ на гэтае запытанне яшчэ не сфармуляваны. Пакуль ясна хіба толькі адно: у «кампутары» няма жывога чалавека, гэта значыць, няма нашых выбітных творцаў, якія наўпрост, сам-насам сумовяцца з студэнтамі на лекцыях, семінарах, калоквіўмах і нават падчас філасофскіх вандровак па Беларусі.

***— Часам падаецца, што ўся дзейная моладзь зараз ідзе ў айцішнікі. Чаму нехта усё роўна імкнецца атрымліваць гуманітарную адукацыю?***

— Татальны крызіс гуманітарнай адукацыі і, калі шырэй, усяго гуманітарнага дыскурса — навідавоку. Пра гэта, здаецца, ніхто нават і не спрачаецца. Дыскутуюцца хіба адно — прычыны, якія спачатку выклікалі крызіс, а затым і сфармавалі яго як татальнасць. Тут не месца далучацца да гэтай мега-дыскусіі. Хіба звярну ўвагу на адзін, але, як з майго гледзішча, надзвычай істотны момант: чалавечае ў чалавеку пакрысе перастае бачыцца галоўным для самога чалавека. Цяпер чалавека ўжо найперш вызначае мера ягонай ўпісанасці ў тэхналагічны дыскурс.

З гэтага нават дзіўна, што яшчэ даволі шмат маладых людзей абіраюць сабе за прафесію гуманістыку. Хаця, відаць, большасць з іх проста не ведае, што гэтым самым абірае сабе і ролю аўтсайдэра ў грамадстве. Разам з тым тыя, хто разумее, што сёння адбываецца ў свеце, але не здраджвае свайму прызванню, выклікаюць у мяне вялікую павагу. Трэба яшчэ пазмагацца за чалавека як такога. А там час пакажа.

***— Вы кіруеце аддзяленнем філасофіі і літаратуры. Ці цяжка працаваць з творчымі людзьмі?***

— Якраз з таленавітымі людзьмі працаваць лёгка. Хаця больш дакладна будзе сказаць — радасна. І ці не таму, што толькі праз здольнасць да творчасці чалавек вылучыўся з усяго астатняга свету ў чалавека. Інакш кажучы, дапамагаючы нашаму маладому калегу рэалізаваць свой талент, мы неўпрыкмет павялічваем колькасць чалавечага ў чалавеку. І хаця кожны раз паасобку гэта зусім непрыкметнае павелічэнне, але… Вось таму і радасна.

***— Выбачайце за дылетанцкае пытанне. Ці можна наогул навучыць літаратурнаму майстэрству? Як вырасціць паэта ці пісьменніка?***

— Калі я паступіў у Маскоўскі літаратурны інстытут, дык быў літаральна збянтэжаны тым, што ўсе тамтэйшыя выкладчыкі, пачынаючы з рэктара, не стамляліся нагадваць нам: на пісьменніка ніхто нікога не можа вывучыць. А вось што мы напэўна можам, казалі яны, дык гэта навучыць вас чытаць. Хутка я зразумеў, што гэта абсалютна слушна. Нельга навучыць, можна толькі дапамагчы зрабіцца празаікам, паэтам, філосафам, калі ў хлопца ці дзяўчыны ёсць хоць трохі з таго, што звычайна пазначаюць словам талент. Гэтым мы і займаемся на аддзяленні філасофіі і літаратуры. А таго, хто гэтай дзіўнай вярэды у сабе не мае, мы вучым чытаць. Што таксама не пазбаўленае сэнсу. І не абы якога…

**Размаўляла Ірына МАМЧЫЦ,**
**Беларускі Калегіюм, аддзяленне журналістыкі**

# Не можаш знайсці працу — райся з сябрамі, прапаноўвай тэмы і паўсюль хадзі



**Цягам года стаў сведкам багатай колькасці як паспяховых, так і непаспяховых працоўных пошукаў. І лепшай парады, чым біблейскі выраз «шукайце — і знойдзеце», я асабіста даць не магу…**

**Барыс ГАРЭЦКІ,**
**спецыяльна для «А»**

## Медыі ў новых умовах

Асноўнымі выклікамі для недзяржаўных медыяў ў 2017-м будуць зусім не пераслед уладаў, затрыманні ці суды.

Галоўная праблема 2016–2017 гадоў — эканамічны крызіс, які, пэўна, закрануў абсалютна ўсе СМІ, што не маюць дзяржпадтрымкі. Ды і некаторым дзяржаўным выданням давялося несалодка. Істотна скараціўся аб'ём рэкламы ў беларускім інтэрнэце. Медыі пазбавіліся 20–30% прыбытку ад рэкламы на сайтах.

Замежныя донары, якія доўгі час падтрымлівалі беларускі недзяржаўны медыясектар, істотна скарацілі, а некаторыя і наогул спынілі свае датацыйныя праграмы.

Для журналістаў гэта азначае зніжэнне заробкаў і жахлівае словазлучэнне «скарачэнне штату». Безумоўна, добрага рэпарцёра ніхто з рэдакцыі не папросіць. Але што рабіць тым, хто толькі прыходзіць у прафесію ці так альбо інакш усё ж апынуўся без працы? У такім выпадку ёсць некалькі варыянтаў паводзінаў.

## Хто патрэбны рынку?

— Каго б мы адразу ўзялі на працу? Гэты чалавек павінен валодаць зайздросным наборам якасцяў, — кажа галоўны рэдактар TUT.BY **Марына Золатава**. — Самае галоўнае — бясконцая невычарпальная цікаўнасць да ўсяго! Журналіст не можа быць эгацэнтрычным!

Журналіст мусіць упітваць інфармацыю, мець вялікае жаданне падзяліцца гэтай інфармацыяй з іншымі. Цікавасць у журналіста павінна быць да падзеяў і любых зменаў, якія адбываюцца вакол яго: новая будоўля, новыя знакі, новыя абвесткі на пад'ездах. І канешне ж, людзі!

Таксама важна ўмець структураваць інфармацыю, фільтраваць і аддзяляць факты ад фэйкаў. Раней усе скардзіліся на тое, што інфармацыі



мала і яе складана атрымаць. Сёння ж галоўная праблема СМІ — вялізная колькасць інфармацыі, з якой неабходна ўмець выбраць галоўнае.

Важнай якасцю журналіста з'яўляецца пісьменнасць. Раней у газетах спачатку журналіст пісаў тэкст, потым яго чыталі карэктар, рэдактар і гэтак далей. Цяпер такога вялізнага штату і канвеера нідзе няма. Таму, калі журналіст робіць «круты» матэрыял, але не бачыць розніцы паміж «-тся» і «-цься», гэта вельмі зніжае каштоўнасць усёй публікацыі, зазначае Золатава.

— Але найперш у журналіста павінны гарэць вочы, ён павінен быць цікаўны да ўсякай інфармацыі і яе пошуку. Штогод да нас на практыку з Інстытута журналістыкі БДУ прыходзіць даволі шмат людзей, але працаваць застаюцца адзінкі. Такіх мы самі запрашаем застацца. Гэта людзі, якія сапраўды хочуць шукаць інфармацыю, цікавіцца, капаць і даносіць знойдзенае да чытача, — канстатуе Марына.

Як жа знайсці запаветную рэдакцыю?

## Актыўны пошук працы

Да 2016 года **Арына Сандовіч** ужо працавала ў журналістыцы, супрацоўнічаючы з вядомымі СМІ. Але ў нейкі час вырашыла пашырыць свой прафесійны досвед і стала прэс-сакратаром Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі.



— Пісала рэлізы і публікацыі на сайт федэрацыі, асвятляла спаборніцтвы, паступова ўзбагачалася новымі карыснымі кантактамі ў спартыўным асяродку. Але па незалежным ад мяне абставінам была вымушана сысці адтуль, — распавядае Арына.

Новы досвед — гэта заўсёды крута. Ён дапаможа вам потым значна пашырыць сферы, дзе вы маглі б прымяніць свае прафесійныя здольнасці. Напрыклад, Арына зараз можа прэтэндаваць на працу не толькі ў СМІ, але і ў розных арганізацыях. І пакуль шукала новую працу, ні дня не сядзела на месцы — рассылала рэзюмэ, тэлефанавала, спяшалася на сустрэчы.

— Я актыўна супрацоўнічала з рознымі выданнямі, прапаноўвала ім свае тэмы ў тых сферах, якія мяне цікавяць. Гэта быў і спорт, і мода, і нават бізнес. І вось аднойчы мне прыйшлі адразу тры запрашэнні ад дастаткова буйных і вядомых анлайн-выданняў, арганізацый, так што мне нават прыйшлося выбіраць адно, і выбар быў цяжкім, — прызнаецца Арына.

— Мая парада ўсім, хто шукае працу, — пад ляжачы камень вада не цячэ. Пішыце, банальна прыходзьце ў рэдакцыі, прапаноўвайце тэмы. І не трэба баяцца быць пасланым! Трэба разумець, што многія прапановы рэальна могуць прайсці міма: банальна — ліст трапіў у спам ці табе яго несвоечасова перадалі і г. д. Актыўна распавядайце свайму атачэнню, што шукаеце працу: так па ланцужку можна таксама знайсці карысную інфармацыю пра новыя вакансіі.

Гэты рэцэпт рэкамендуе скарыстаць і яшчэ адна знаёмая журналістка з 15-гадовым стажам.

— Калі я пачынала, у мяне наогул не было ніякага досведу працы ў журналістыцы. Але было вялікае жаданне, — распавядае Кацярына. — І я банальна хадзіла па рэдакцыях, прапаноўвала тэмы, бралася за нейкія сюжэты, напрацоўвала знаёмствы. Калі ствараўся тэлеканал АНТ, праз нейкіх знаёмых я нават знайшла тэлефон Юрыя Казіяткі і адважылася яму патэлефанаваць. Так моцна я хацела працаваць і прыкладала да гэтага ўсе намаганні, што ўсім і раю.

За час працы ў БАЖы мне дзясяткі разоў даводзілася дапамагаць калегам у пошуку працы і не заўсёды намаганні прыводзілі да хуткага выніку. Часам сапраўды так складваюцца зоркі, што менавіта ў той галіне, дзе вы хочаце працаваць, акурат усе вакансіі занятыя, а за дзвярыма стаіць яшчэ і чарга жадаючых. У такім выпадку разумна перайсці да плану B.

## Праца на імя

Гэты варыянт для тых, у каго не асабліва гарыць фінансавае пытанне, і ён шукае найперш не грошы, а хутчэй цікавую працу з, так бы мовіць, доўгатэрміновым разлікам.

**Настасся Роўда** працавала ў «Рэгіянальнай газеце» у Маладзечна чатыры гады. За гэты час



маладая калега вельмі добра засвоіла асновы журналістыкі, выпрацавала асабісты стыль і падыход да працы.

— І вось у адзін цудоўны дзень мне напісаў прадстаўнік сталічнага інтэрнэт-выдання і запрасіў паўдзельнічаць у конкурсе на пасаду шэф-рэдактара. Я выканала ўсе заданні і мне прапанавалі далучыцца да каманды, — распавядае Наста.

— Толькі я сабрала рэчы каб пераязджаць у Мінск, да мяне звярнулася яшчэ і «Наша Ніва». Кіраўніцтва выдання таксама прапанавала працу, патлумачыўшы, што ведаюць мяне па працы ў «Рэгіяналцы».

Мая парада тым, хто хоча трапіць у крутое выданне, — рабіце сваю справу вельмі якасна, дзе б вы цяпер ні працавалі. Шукайце цікавыя тэмы, ракурсы, удзельнічайце і перамагайце ў конкурсах. Калі вы насамрэч чагосьці вартыя — вас заўважаць!

Прасунутым выданням патрэбны светлыя галовы, здольныя генераваць ідэі, працаваць хутка, шмат і ў любых умовах. І натуральна, нікому не патрэбны чалавек без досведу і разумення, як працаваць. У буйныя выданні трэба ісці падрыхтаваным, таму што памыліцца перад аўдыторыяй у тысячу чалавек прыкра, але выставіцца няўмекай перад аўдыторыяй у сто тысяч чалавек — гэта поўны правал!

Па сцэнары В летась знайшоў працу і малады эксперт «Ліберальнага клуба» **Вадзім Мажэйка**.



— Калі хочаш знайсці добрую працу, укладай у сябе. Хадзі на мерапрыемствы, цікаўся падзеямі ў сваёй галіне, удзельнічай у дыскусіях, каб цябе ведалі. Летась, напрыклад, я даведаўся, што «Беларусы і рынак» шукаюць аўтара, і напісаў ім сваю прапанову. А з рэдакцыі мне адказалі, што добра мяне ведаюць, ведаюць, што я разбіраюся ў патрэбных галінах, добра пішу і дакладна ім падыходжу, — кажа Вадзім.

Гэта класічны прыклад, калі твая «залікоўка» працуе на цябе. Калі ў цябе былі цікавыя публікацыі па тэме, у якой ты разбіраешся, калі ты працягваеш пошук і хочаш паглыбляцца, цябе абавязкова ўбачаць. Нават калі спачатку ты пісаў артыкулы «на грамадскіх пачатках».

## Яшчэ адзін варыянт — самому стварыць працоўнае месца

Вядомы музычны журналіст **Сяргей Будкін** прызнаецца, што ніколі не працаваў у штаце. Пасля журфака пісаў артыкулы ў «Згоду», «Нашу Ніву», «Беларускую маладзёжную». У 2003-м годзе Сяргей разам з сябрамі стварыў галоўны беларускі музычны партал «Тузін Гітоў», рэдактарам якога з’яўляецца і па сённяшні дзень.

За 14 гадоў Сяргей апроч «Тузіна» прыдумаў і рэалізаваў бясконцую колькасць медыяпраектаў, праграм на радыё і цыклаў артыкулаў у розных СМІ. Сярод іх «РадыёТузін» і «Музыка тыдня» на Радыё Рацыя, «Белы спіс» на Свабодзе, *Belsat Music Live* і Навагодняе тэлешоў-2016 на Белсаце.

— Я заўсёды прыдумляў нейкія ідэі для матэрыялаў і праектаў, цікавіўся беларускім музычным жыццём і сам імкнуўся актыўна ў ім удзельнічаць. Фактычна сам ствараў сабе працоўныя месцы, запачаткоўваў ініцыятывы, якія прыносілі плён і мне, і маім паплечнікам, і тым, пра каго мы рабілі матэрыялы. А пачынаў я звычайным маладым і даволі наіўным журналістам, — прызнаецца Сяргей.

Такім жа шляхам год таму пайшла і стваральніца ўжо вядомага часопіса «Имена» **Кацярына Сінюк**. Нейкі час журналістка TUT.BY разам з аднадумцамі выношвала ідэю, прапрацоўвала магчымасці і аспекты, і ўрэшце запусціла ўласны праект, стварыўшы працоўнае месца не толькі сабе, але і іншым журналістам.

— Мы хацелі займацца сацыяльнай журналістыкай, адключыць мозг ад вялікай колькасці непатрэбных навінаў і працаваць у канкрэтным накірунку. Самае галоўнае, што патрэбна — вялікае ўнутранае жаданне. Калі б жадання не было, я б і журналісткай ніколі не стала, — прызнаецца Кацярына.

У цяперашніх умовах зноў выратаванне тапельцаў — справа саміх тапельцаў. Варушыцеся, цягніцеся — той яшчэ каму дапаможаце!

Зрэшты, на сайце БАЖа ёсць адмысловая рубрыка «Вакансіі і рэзюмэ».

# Першыя ў «сваёй вёсцы»

## Куды рухацца рэгіянальным СМІ

**Яны ніколі не гублялі свайго значэння на фоне агульнанацыянальных медыйных праектаў. Сакрэт цікаўнасці да рэгіянальных СМІ просты: як добры сусед, яны штодня заходзяць да нас у госці, каб пагаварыць па душах, абмеркаваць набалелае ды апошнія мясцовыя навіны. Гэты «сусед» павінен быць у курсе ўсяго: ад міжнароднай палітыкі, сусветных тэндэнцый на рынку нафты і да таго, дзе заўтра перакрыюць дарогу ці ў якім раёне будуць мяняць вадаправодныя трубы.**

Заснавальнікі самых буйных рэгіянальных інфармацыйных парталаў Беларусі паспрабавалі зазірнуць у будучыню і вызначыць, якіх стратэгічных кірункаў варта трымацца, каб не проста «быць на плаву», але і развівацца далей.

Шлях да папулярнасці інфармацыйных інтэрнэт-парталаў *gomel.today* («Сильные новости»), *s13.ru* (Блог Гродно s13) і *news.vitebsk.cc* («Народныя навіны Віцебска») быў розным. Кожны з іх на медыярынку ўжо каля 10 гадоў. Іх першыя спробы папулярызацыі і развіцця рэсурсаў некалі пацярпелі паразу. Каб не паўтараць памылак, стваральнікі паспяховых інфармацыйных сайтаў дзеляцца сваім досведам як з вопытнымі калегамі, так і з пачаткоўцамі ў гэтай справе.

**Сяргей Серабро, «Народныя навіны Віцебска» *(news.vitebsk.cc)*:** «Па-першае, мы вырашылі стварыць, так бы мовіць, гібрыдны сайт: прафесійны адносна інфармацыі і разам з тым грамадзянскі. То бок 50% кантэнту рыхтуюць журналісты, а астатняя палова напаўняецца матэрыяламі саміх чытачоў. На жаль, з гэтай ідэі нічога не атрымалася. Хаця двойчы мы спрабавалі зацікавіць аўдыторыю, праводзілі конкурсы для грамадзянскіх журналістаў, аднак зацікавіць жыхароў горада і рэгіёна аказалася надта складана. Разам з тым наша сённяшняя аўдыторыя — гэта каля 60 тысяч наведвальнікаў».

**Сяргей Чабоцька, Блог Гродна *s13 (s13.ru)*:** «Увогуле гісторыя стварэння нашага рэсурса — гэта, па сутнасці, шэраг выпадковых падзей. Дамен, імя і хостынг я выйграў у інтэрнэце. Паўстала пытанне: што рабіць з гэтым далей? Першапачаткова S13.ru з'явіўся як сайт-рэдактар смешных і забаўляльных навінаў. Аднак яго лёс кардынальна змяніў адзін каментарый, які прыйшоў літаральна праз два тыдні пасля размяшчэння нашых публікацый. Чалавек напісаў, што такога кантэнта ў інтэрнэце хапае і чаму б не рабіць навіны Гродна. Я задумаўся: сапраўды, чаму б не паспрабаваць? У выніку Блог Гродна стаў маім хобі, якое выйшла на сур'ёзны ўзровень. На сённяшні дзень s13.ru — гэта каля 40 тысяч наведвальнікаў у суткі. За месяц аўдыторыя складае каля 300 тысяч чалавек».

**Інфармацыйны інтэрнэт-партал «Сильные новости»** *(gomel.today)* не нашмат маладзейшы за сваіх калег, аднак яго заснавальнік **Пётр Кузняцоў** ні на хвіліну не сумняваецца ў тым, што іх партал сур'ёзна ўплывае на гамяльчанаў.

— Каб гаварыць пра гісторыю поспеху, неабходна ў самым пачатку зразумець, што такое

поспех, — зазначае Пётр. — Тое, што робяць сёння рэгіянальныя СМІ — гэта сапраўды важна і патрэбна, сапраўды карысна і эфектыўна. Бо ў іх дзейнасці ёсць нешта і ад працы Джобса, і ад Цэзара адначасова. Прыгадаю выказванне Цэзара: «Лепш быць першым у сваёй вёсцы, чым другім у Рыме» і парадыгму Джобса — трэба змяняць свет. Па волі аб'ектыўных прычын змяніць свет нам сёння не заўсёды пад сілу, але нешта змяніць у сваіх рэгіёнах мы можам. Абсалютна дакладна кажу, што «Сильные новости» ў добрым сэнсе змянілі «псіхалогію» Гомеля і зменяць яшчэ не раз. Сёння наша штодзённая аўдыторыя не менш як 30 тысяч чалавек, а штомесячная — 300 тысяч. Я лічу, што гэта поспех.

Адзіны рэгіянальны партал у Беларусі, дзе больш наведвальнікаў, — гэта Блог Гродна *s13*. Пры такім ахопе сайт *s13.ru* або *gomel.today* цалкам у стане аказваць на рэгіён сур'ёзнае інфармацыйнае ўздзеянне, у стане канкурыраваць і перамагаць нацыянальныя, замежныя і расійскія СМІ. Мы цалкам у стане асвойваць шырокі рэкламны рынак. Мы перафарматаваліся ў агульнагарадскі партал, змянілі адрас на gomel.today, каб пазбавіцца палітычнай афарбоўкі. Мы прымерылі на сябе ролю агульнагарадскога СМІ і зараз у гэтай ролі сябе і адчуваем. Пазалетась, у ліпені, мы абыйшлі TUT.by. Сёння ў нашай «вёсцы» мы — першыя. У Гомелі няма сайта настолькі папулярнага, як «Сильные новости», і так ужо два гады запар.

***— А якой вы бачыце сваю дзейнасць, напрыклад, у 2020 годзе?***

— Самая важная змена — гэта сацыяльныя сеткі. У нас сёння 110 тысяч падпісчыкаў у сацыяльных сетках: 87 тысяч «УКантакце», 20 тысяч — у «Аднакласніках», 2200 — у фэйсбуку і 700 — у твіттары. Гэтыя дадзеныя ламаюць пэўныя шаблоны. «Аднакласнікі» і «УКантакце» маюць аўдыторыю па 4,7 мільёна зарэгістраваных акаўнтаў у Беларусі. Фэйсбук тут са сваім мільёнам нават побач не стаяў. Насамрэч народ — там. І трафік асноўны там. 51% нашага трафіка сёння генеруюць сацсеткі. Гэта вельмі важны момант, таму што гэта — трафік будучыні. Як і вялікая колькасць моладзі. Яны застануцца нашымі наведвальнікамі і заўтра, і паслязаўтра.

***— Наколькі вы ўлічваеце асаблівасці рэгіянальнага ці абласнога рынку?***

— У Гомельскай вобласці пражывае 1 мільён 700 тысяч чалавек. Гэтую лічбу можна лёгка параўнаць з насельніцтвам Эстоніі, краінай ЕС, сябрам НАТА, якая мае свайго прэзідэнта і армію. Чым




*Сяргей Серабро, «Народныя навіны Віцебска» news.vitebsk.cc*

жа горшы патэнцыял нашага рэгіёна? Наша праца з рэкламадаўцамі за апошнія два гады паказвае, што гомельскі бізнэс разумее, што наш сайт у Гомелі больш папулярны за TUT.BY. А кошты на рэкламу нашмат ніжэй, чым, напрыклад, у TUT.BY. Рэклама на нашым рэсурсе даволі запатрабаваная, і тут гомельскі бізнэс цалкам здольны нас «пракарміць». Самадастаковасць рэгіянальных рынкаў — гэта не выклік, а фактар нумар адзін! Рэгіянальнае СМІ можа паспяхова працаваць і развівацца, калі працуе на якую-небудзь вобласць у Беларусі альбо на горад Мінск. Літаральна за кошт колькасці спажыўцоў і бізнэса.

***— Некаторыя адмыслоўцы сцвярджаюць, што такое паняцце, як інтэрнэт, неўзабаве можа знікнуць.***

— Гэта прагноз онлайн-тэхнолагаў на бліжэйшыя 20 гадоў. І ён актуальны. Дагэтуль пэўная колькасць людзей кажа: прачытаў навіны ў інтэрнэце, аплаціў рахункі з дапамогай інтэрнэта, знайшоў у нэце… Сёння інтэрнэт уваходзіць у наша жыццё настолькі глыбока, што гэта словазлучэнне, сапраўды, можа згубіць свой першапачатковы сэнс.

***— Наколькі ў вашай дзейнасці важная шматплатформнасць?***

— Нам трэба разумець, што многія рэчы, якія адбываюцца ў нашым рэгіёне, мы можам данесці да чытача, гледача ці слухача больш хутка, больш падрабязна і лепш, чым агульнанацыянальныя СМІ. TUT.BY не можа замяніць «Сильные

новости», бо не будзе пісаць пра тое, якая вуліца ў нашым горадзе сёння перакрытая, а такая інфармацыя насамрэч патрэбна людзям. У гэтым наша перавага, бо мы тут, на месцы. У нашым выпадку актуальнасць адбываецца не з аператыўнасці, а з лакальнасці. Пры гэтым неабходна ўлічваць той непазбежны выклік, што інтэрнэт распаўсюджваецца паўсюль. Я думаю, што ў бліжэйшыя гады мы будзем вымушаны працаваць онлайн у патокавым відэа 4G. Трэба разумець, што хутка ў аўтамабілі чалавек будзе слухаць радыё праз інтэрнэт і г. д.

— Заўсёды трэба крочыць за сваёй аўдыторыяй, — лічыць **Сяргей Чабоцька**. — Калі ёй падабаюцца сацыяльныя сеткі, трэба быць у сацсетках. Калі аўдыторыя часцей выкарыстоўвае мабільныя тэлефоны, то трэба рабіць стаўку на гэта. Для s13.ru напачатку гэта будзе «УКантакце». Потым інстаграм. Не так даўно з'явіўся акаўнт у фэйсбуку. Магчыма, мы паспрабуем закрануць больш сталую ўзроставую аўдыторыю і зробім акаўнт у «Аднакласніках». Калі назваць лічбы, то ў нас «УКантакце» 68 тысяч падпісчыкаў, у інстаграме — 25 тысяч і ў фейсбуку — 880. Па сутнасці, калі гаварыць пра s13.ru, то трэба проста паўтарыць вопыт паспяховых рэдакцый для таго, каб зазірнуць яшчэ далей. Бо пакуль адміністраваннем займаюся толькі я адзін і разумею, што некаторыя рэчы не паспею выканаць проста фізічна. Трэба пашырацца і далучаць да супрацоўніцтва больш кампетэнтных спецыялістаў.

— Мы з самага пачатку стараліся выкарыстоўваць тыя тэхналагічныя навінкі, якія з'яўляліся, — працягвае размову **Сяргей Серабро**. — Калі тэхналогіі ў тэлефонах трошкі прасунуліся, у нас адразу з'явілася аўтаматычная адаптаваная праграма, якая ўключаецца для андроід-смартфонаў і айфонаў. На той час усе казалі: там адзін працэнт аўдыторыі, навошта табе гэтым замарочвацца? А зараз там ужо дзесьці 30–40 % аўдыторыі і наш сайт без праблем праглядаюць са смартфонаў. Апошнім часам больш інтэгруемся з сацсеткамі. Калі гаварыць пра нейкія глабальныя ці нацыянальныя СМІ, то перавага рэгіянальных выданняў менавіта ў тым, што мы можам працаваць з гіперлакальнымі тэмамі. Наша ніша нікуды не дзенецца. Вельмі важна, каб рэгіянальнае выданне не проста публікавала навіну, а каб гэтая навіна ўплывала на жыццё. Калі ў людзей некалькі месяцаў няма вады, таму што ў вёсцы сапсаваная вадакачка, а пасля публікацыі гэту праблему вырашаюць за некалькі дзён, то ў наступны раз людзі самі будуць звяртацца да нас. І ўспрымаць нас як аўтарытэтнае СМІ, якое можа ўплываць на сітуацыю.




*Сяргей Чабоцька, Блог Гродна s13.ru*

***— Як, на вашу думку, у сённяшніх варунках павінна выглядаць стратэгія адносін незалежных рэгіянальных СМІ з уладамі?***

**С. Чабоцька:** «У любым выпадку трэба трымаць дыстанцыю. Не трэба дапускаць нейкіх асаблівых адносін. У s13.ru былі непаразуменні з органамі ўлады. Пасля выбараў у 2011-м годзе быў вельмі моцны ціск на сайт і на мяне асабіста. Таму я стараюся трымацца на пэўнай адлегласці ў стасунках з органамі ўлады. Што тычыцца гарадскіх уладаў, то тут узнікае праблема самацэнзуры ў дачыненні да таго, пра што ты хочаш расказаць. Гэта вынік ўплыву на рэсурсы, як кажуць, "зверху". Па сутнасці, што такое s13.ru? Гэта адзін чалавек, якога можна "проста прыбраць", і рэсурса не будзе. І таму я стараюся трымаць дыстанцыю, хаця спробы ўплыву таго ж гарвыканкама і аблвыканкама ёсць, калі выходзяць крытычныя матэрыялы. На дадзены момант удалося адстаяць такую пазіцыю, што зусім непрыемная для ўладаў навіна не выдаляецца, а проста крыху апускаецца долу. Структура сайта такая, што гэта навіна знаходзіцца не зусім навідавоку, але людзі ўсё адно маюць магчымасць яе абмяркоўваць».

**П. Кузняцоў:** «Поўнасцю падзяляю меркаванне наконт дыстанцыі. На шчасце, гэта не вымагае асаблівых высілкаў, таму шо ўлада сама стараецца дыстанцыянавацца. Парадокс, але мы нібыта жывём у паралельных сусветах. Іх задавальняе тое, што наша інфармацыя ўзважаная. Калі яны зрабілі нешта важнае і карыснае, мы пра гэта, канешне, напішам. Калі ж нешто дрэннае — мы таксама пра




*Пётр Кузняцоў,*
*Інфармацыйны інтэрнэт-партал «Сильные новости» gomel.today*

гэта напішам. І я думаю, што ў пэўнай ступені гэта стымулюе іх на больш прафесійнае супрацоўніцтва са СМІ: ідэолагі вучацца больш адказна і акуратна пісаць прэс-рэлізы, якія яны нам пастаянна дасылаюць. А ўвогуле часта дэманструюць цуды непаслядоўнасці: спачатку хаваюць ад нас інфармацыю пра мерапрыемства, не запрашаюць або не пускаюць на яго, а потым скардзяцца — чаму мы не ўзялі прэс-рэліз для публікацыі ці не асвяцілі гэта мерапрыемства. Тады мы кажам: рэдакцыя сама паводле "Закона аб СМІ" вырашае, што нашым чытачам цікава, а што — не. Узаемаадносіны з мясцовымі ўладамі дастаткова роўныя, думаю, з-за таго, што ў нас няма ніякіх абавязацельстваў перад імі і не вельмі шмат у іх "інструментаў", каб ціснуць на нас. Улады разумеюць, што "прыхлопнуць" рэсурс, які чытае абсалютна ўвесь горад, без сур'ёзных падстаў і без скандала немагчыма. Мы не вядзём інфармацыйную вайну з уладамі, а адлюстроўваем рэчаіснасць такой, якая яна ёсць».

**С. Серабро:** «На мой погляд, трэба быць прынцыповым і досыць жорстка ставіцца да ўзаемаадносін з уладамі, як бы гэта не ўплывала на мой лёс, на лёс СМІ ў прынцыпе. Справа ў тым, што калі адзін раз дасі слабіну, то потым гэтым будуць карыстацца. У той жа час сама ўлада з большай павагай ставіцца менавіта да вашай прынцыповай пазіцыі і ўвогуле рэагуе на яе. Чыноўнікі разумеюць, што праўдзівая, аб'ектыўная і часам жорсткая інфармацыя больш каштоўная, яна заўсёды ўспрымаецца грамадствам. Тое, што нам увогуле дазваляюць друкаваць і выстаўляць даволі крытычныя матэрыялы, доказвае, што ўлада таксама не дурная і ёй заўсёды, акрамя тых газет, якія адлюстроўваюць афіцыйную пазіцыю і часам скажаюць праўду, патрэбна, каб нехта ацэньваў сітуацыю рэальна. А гэта, як вядома, добра рабіць з дапамогай маніторынга непадцэнзурнай інфармацыі і адпаведна рэакцыі чытачоў на яе».

***— А што б вы маглі параіць тым, хто вырашыў стварыць ці ўжо стварае новыя рэгіянальныя інфармацыйныя сайты?***

**П. Кузняцоў:** «Калі адкрываеце новы рэгіянальны сайт, думайце і ніколі не забывайце аб адным: ваш сайт будзе паспяховым толькі ў тым выпадку, калі ён мусіць даць адказы на ўсе пытанні чытачоў, якія толькі могуць узнікнуць. Аптымальная мадэль — паказаць карціну дня за кошт навінаў, якія рыхтуюць інфармацыйныя агенцтвы, аднак абавязкова трэба зрабіць нешта сваё. Сённяшняя праца сайтаў навін — гэта не толькі дзейнасць журналістаў. Цяперашні медыярынак сегментаваны вельмі моцна. Інфармацыйныя агенцтвы шукаюць і здабываюць інфармацыйныя нагоды. Дзяржаўныя органы таксама дасылаюць прэс-рэлізы ў асноўным буйным інфармацыйным агенцтвам. Толькі вам іх не дадуць ніколі. Таму вы не ўгоніцеся за імі і нічога не даб'ецеся, калі не будзеце рабіць уласныя, цікавыя і патрэбныя мясцоваму чытачу матэрыялы. Сённяшні поспех онлайн-журналістыкі — гэта у першую чаргу праца рэдактара, дакладнае планаванне на бліжэйшы час і на перспектыву, вызначэнне парадку дня. Разуменне таго, як тую ці іншую сітуацыю больш даступна паказаць. Лепш за ўсё для гэтага скарыстаць добры інфармацыйны фон і не вельмі важна, адкуль вы яго возьмеце, галоўнае — сумленна, са спасылкамі і сваім аўтарскім разуменнем таго, што вы робіце для жыхароў вашага горада».

**С. Чабоцька:** «Галоўнае — падаваць такую інфармацыю, якая будзе запатрабаваная большасцю аўдыторыі. S13.ru не посціць усё запар, а робіць падборку самага цікавага».

**С. Серабро:** «Выйгрыш рэгіянальных СМІ — ў іх гіперлакальнасці. Можна выкарыстоўваць гэты момант і ствараць свой сайт у горадзе. Не абавязкова гэта мусіць быць гарадскі сайт, можна стварыць сайт раёна, ды хоць сайт двара! Галоўнае — стварыць сетку, збудаваць партал, які будзе перадаваць цікавую для мясцовых жыхароў стужку навін».

**Падрыхтавала Кася БЕРГЕЛЬ**
**Фота Катажыны Ляўдацкай**

# Пра «дурноцце» начальнікаў, эпідэмію страха ды землямера-«іуду»

**Зашоранасць і павальны страх людзей — гэта тое, з чым рэгіянальныя журналісты сутыкаюцца амаль штодня. Асабліва калі рыхтуюць вулічныя апытанні. Да ўсяго іх працы вельмі замінае негатыўнае, калі не варожае, стаўленне чыноўнікаў мясцовага разліву да карэспандэнтаў, якім яны адмаўляюць у прадастаўленні інфармацыі.**

Таццяна СМОТКІНА

Часцей за ўсё з такімі праблемамі сутыкаюцца журналісты-фрылансеры, бо іх статус улада не прызнае не толькі ў рэгіёнах, але і на самым высокім кіруючым «алімпе». Насуперак еўрапейскім стандартам, прынятым ва ўсіх цывілізаваных краінах свету. А мы ж з вамі таксама жывем, як часта кажа кіраўнік Беларусі і яго міністры, у самым што ні на ёсць «цэнтры Еўропы». А мо зусім і не ў цэнтры? Калі паглядзець на ўсе недарэчнасці, з якімі пастаянна сутыкаюцца мае калегі. Хаця ўсім зразумела, што справа тут не ў геаграфічным становішчы. Праўда ў тым, што «разруха не ў клазетах, а ў галовах…»

Чыноўнікі, асабліва тыя, хто займае далёка не першыя пасады, наўпрост хаваюцца ці ўцякаюць ад журналістаў. Маўляў, не гатовыя адказваць на пытанні. Часцяком увогуле бесцырымонна кідаюць тэлефонную трубку. Хаця адказы мясцовага начальства вельмі хацелі б пачуць жыхары раённых цэнтраў, пасёлкаў ды забытых не толькі Богам, але і мясцовымі ўладамі вёсак.

Я сустрэлася з незалежнымі журналістамі Глыбоччыны. Адразу скажу, што ніхто з іх не шкадуе, што выбраў вольную, непадцэнзурную журналістыку. Бо, як зазначылі мае суразмоўцы, ім не трэба ісці на кампраміс з уласным сумленнем, не трэба хлусіць ні сабе, ні людзям. Толькі так можна захаваць прафесійны гонар і годнасць.



Журналіст-фрылансер **Зміцер Лупач** не першы год супрацоўнічае з «Белсатам», але дагэтуль не перастае здзіўляцца, як напружана і палахліва «нашы людзі» ўспрымаюць чалавека з тэлекамерай ці дыктафонам.

— Я працую відэааператарам, і калі звяртаюся да чыноўнікаў па каментар, узнікаюць вялікія цяжкасці. Яны і без таго не з вялікай ахвотай ідуць на кантакт, а тут яшчэ телекамера… Тады я ім тэлефаную і, бывае, нешта ўдаецца запісаць. Што цікава, больш за ўсё баяцца растлумачыць тую ці іншую сітуацыю чыноўнікі, якія займаюць нязначныя пасады.

Аднак прывяду станоўчы прыклад: я двойчы звяртаўся па каментар да старшыні Глыбоцкага райвыканкама і ён мне не адмовіў. Тады я рыхтаваў сюжэт для мясцовага сайта пра падзеі ў галіне культуры.

А больш дробныя чыноўнікі ды супрацоўнікі ідэалагічнага аддзела адмаўляюць у інтэрв'ю. Спасылаюцца на вялікую занятасць або наўпрост на сваю некампетэнтнасць, ды яшчэ імкнуцца пераключыць «фокус» на іншых кіраўнікоў.

З большасцю мясцовых жыхароў таксама цяжка працаваць, бо вулічныя апытанні я звычайна запісваю на відэакамеру. Аднак, калі адну-дзве гадзіны паходзіш, можна ўсё ж такі некага запісаць.

Напрыклад, рабіў я відэаапытанку для сайта і адначасова для газеты «Вольнае Глыбокае». Задаваў мінакам перадсвяточнае пытанне: што вы чакаеце ад новага года і чаго жадаеце? Дык адна жанчына баялася нават сфатаграфавацца для незалежнай газеты, хаця на жыццё не скардзілася, нічога дрэннага пра ўладу не сказала, толькі станоўчае. Потым я звярнуўся да дырэктаркі Цэнтра традыцыйнай культуры і народнай творчасці, якая мне адмовіла, спаслаўшыся на занятасць. Зараз людзі ўвогуле баяцца «засвяціцца» ў прэсе, асабліва ў незалежнай. Калі за савецкім часам для народа трапіць «у тэлевізар» было за шчасце, то зараз такога не скажаш.

Падчас вулічнага апытання ёсць яшчэ такі псіхалагічны момант: калі звяртаешся да групы людзей, яны больш ахвотна ідуць на кантакт. Глядзяць адзін на аднаго і больш смелыя, а паасобку — смеласць кудысьці знікае.

Бывае, што нават у касцёле людзі баяцца размаўляць з журналістамі. Я супрацоўнічаю з газетай «Каталіцкі веснік» і наведваю іншыя рэгіёны, дзе людзі звычайна ідуць на кантакт, а вось у маіх родных мясцінах — не заўжды. Напрыклад, складана працаваць у Параф'янава (Докшыцкі раён), хаця там вялікая парафія.

***— Сёння паўсюдны страх нагадвае эпідэмію. Як ты лічыш, у чым прычына?***

— Думаю, асноўная прычына ў тым, што народ запалохваюць на працы. Кантрактная сістэма, якую ўвялі ў Беларусі амаль пагалоўна, зрабіла людзей надта палахлівымі: яны баяцца адстойваць свае інтарэсы і выказваць крытыку, бо могуць згубіць працу. Зараз наймальнік можа звольніць чалавека у любы час і нават не патлумачыць прычыну. Калі, напрыклад, у рабочага заканчваецца кантракт, працадаўца можа проста яго не падоўжыць. Зноў жа — без усякай матывацыі. Таму людзі баяцца, бо цяпер згубіць працу вельмі лёгка, а знайсці надта складана. Асабліва ў рэгіёнах, дзе ўсе навідавоку.

Нам, журналістам, як звычайна, «па сакрэту», людзі шмат распавядаюць пра хібы на працы, бо некаторыя працуюць амаль ва ўмовах сярэднявечча. Але яны пакуль усё гэта цярпяць. Напэўна, ужо не вераць, што нешта можна змяніцца да лепшага. Таму найбольш складанымі для мяне з'яўляюцца сацыяльная і праваабарончая тэмы, бо тут чыноўнікі ўвогуле нічога не хочуць каментаваць. І людзі часцей за ўсё таксама не хочуць размаўляць на гэтыя тэмы, бо, як я ўжо казаў, баяцца. Сітуацыя такая, што чалавек ідзе на шчыры кантакт толькі тады, калі, як кажуць, яму ўжо няма чаго губляць.

***Вырашэнне канкрэтнай праблемы заўсёды пазітыўна ўплывае на давер да журналістаў. Бо людзі бачаць, што журналісты цікавяцца іх праблемамі, а не абслугоўваюць чыенебудзь палітычныя або прапагандысцкія амбіцыі.***

Пасада рэдактара і выдаўца ў цяперашні эканамічна нестабільны час вымагае шмат высілкаў, каб захаваць газету, не згубіць чытачоў ды падпісчыкаў.



Што думае пра сённяшнюю сітуацыю і якімі клопатамі жыве, я папрасіла расказаць **Уладзіміра Скрабатуна,** рэдактара і заснавальніка газеты «Вольнае Глыбокае».

— Па-першае, для мяне, як рэдактара, навідавоку адзін важны маркер. Калі людзі жывуць добра, маюць сродкі і нядрэнна зарабляюць, то ўсё рухаецца наперад. Тады людзі даюць шмат прыватных абвестак, рэкламы. Раней у газеце мы размяшчалі каля чатырохсот абвестак на чатырох палосах. Бывала, на ўсе нават не хапала месца, за што нам аднойчы Міністэрства інфармацыі вынесла папярэджанне. Калі ж я бачу, што колькасць абвестак скарацілася на трацiну, — гэта і ёсць яскравы паказчык узроўню жыцця народа і, ў прыватнасці, жыхароў нашага рэгіёна. Вельмі яскравы «маркер»!

Па-другое, цяперашняя эканамічная сітуацыя, калі людзям затрымліваюць заробкі альбо плоцяць зусім нікчэмныя грошы, таксама адмоўна ўплывае на развіццё нашай газеты. Чалавек, можа, і хоча выпісаць незалежнае выданне, але ў яго элементарна не хапае грошай на ежу, лекі, аплату камунальных паслуг… Тут ужо не да газеты, бо ён мусіць на ўсім эканоміць. А чытачоў, асабліва ў вёсках, у нас было шмат.

**_Калі чыноўнік адчувае, што можа растлумачыць сутнасць нейкай праблемы, ды яшчэ калі гэта не закране яго рэпутацыю, то можна атрымаць каментар. А вось калі чыноўнікі чуюць «нязручнае» для іх пытанне, то адразу адмаўляюцца ад размовы ці ўвогуле кідаюць трубку._**

Многія, напрыклад, скардзяцца на складанасці з атрыманнем газеты. Падпіскі праз рэспубліканскі каталог у нас няма, бо ў гэтым нам адмовілі. Многія прыхільнікі нашага выдання не могуць штотыдзень наведваць раённы цэнтр, каб купіць нашу газету, бо жывуць ад Глыбокага за дзясяткі кіламетраў. Тут, на месцы, мы дапамагаем людзям, бо арганізавалі рэдакцыйную падпіску. Але ўзнікае праблема з дастаўкай у далёкія вёскі, дзе скасавалі паштовыя аддзяленні сувязі. У аддаленыя куткі раз на тыдзень, а можа, і часцей, не ведаю, адпраўляецца нейкая мабільная пошта. Аднак ці патрапіць наша карэспандэнцыя туды, куды трэба — невядома. Бо не даходзіла! З-за гэтага людзі таксама перасталі выпісваць газету. Тут узнікае яшчэ адна праблема: што рабіць, як распаўсюджваць газету.

Яшчэ дадам, што наша газета — не канкурэнт афіцыйнай раёнцы, а яна у сваю чаргу не канкурэнт нам. Таму што ў нас абсалютна розная тэматыка.

***— Людзі баяцца ісці з журналістамі на кантакт, асабліва калі даследуецца праблемная сітуацыя. Прыгадаю гісторыю, што адбылася з даяркай з Глыбокага і мела шырокі розгалас. Калі жанчына атрымала зусім мізэрны заробак, яе сын распавёў пра гэта амаль усёй Беларусі. Потым ён ездзіў (за апошнія грошы) скардзіцца ў Адміністрацыю прэзідэнта, куды яго не пусцілі. У рэшце рэшт даярка атрымала крыху вышэйшы заробак толькі за адзін месяц, а потым усё адкруцілася назад. І яшчэ адна акалічнасць: яе сына не ўзялі ў армію (камісавалі яго не ў Глыбокім, а ў Віцебску), хаця ён хацеў прайсці тэрміновую службу. Знаёмыя расказваюць, што сёння многія вясковыя хлопцы хочуць пайсці ў армію, бо там своечасовае і добрае харчаванне, нармальныя бытавыя ўмовы. Сына ж той даяркі ўладкавалі на працу загадчыкам рамонтнай майстэрні. Аднак і яму, і яго сям'і «параілі» не займацца «самадзейнасцю», то бок не размаўляць з журналістамі. Таму ад людзей часта чуеш, што спадзявацца на лепшае не выпадае…***

— Сапраўды, ў рэгіёнах людзі не бачаць ніякіх перспектыў, асабліва моладзь. Некалькі разоў у месяц на гэту тэму з кімсьці ды даводзіцца размаўляць. Людзі прыносяць у рэдакцыю абвестку і задаюцца пытаннем: а што ж будзе з нашым жыццём далей? І расказваюць, як цяпер выхоўваюць сваіх дзяцей. Маўляў, вучыцеся добра, каб потым можна было паехаць вучыцца за мяжу, знайсці там працу і застацца жыць. Бо ў роднай краіне, кажуць, у вас не будзе ніякай перспектывы, не будзе добрай будучыні.

Самае крыўднае, што людзі не проста стаміліся чакаць лепшага жыцця, яны стаміліся жыць у гэтай краіне. І шукаюць хоць нейкае выйсце, нават у банальным атрыманні карткі паляка, каб мець хоць якія выгоды. Людзі не бачаць перспектывы кар'ернага росту, магчымасці самарэлізавацца. У гэтым ёсць вельмі вялікая праблема. Тут я не зайздрошчу новаму лідару або нейкаму руху, якія могуць прыйсці на змену сённяшняй уладзе. Бо ім прыйдзецца сутыкнуцца з катастрофай: у аддаленых ад сталіцы рэгіёнах амаль усё развалена, вёскі проста пазнікалі з мапы Беларусі.

***— Як думаеце, каму людзі больш давяраюць — дзяржаўным альбо недзяржаўным СМІ?***

— Людзі звычайна давяраюць тым аўтарам, якія пішуць праўдзівыя матэрыялы, асабліва праблемныя. Калі яны бачаць, што прыведзены дакладныя факты, то, натуральна, успрымаюць і паважаюць пазіцыю журналіста. І перадусім, я лічу, гэта якраз журналісты незалежных сродкаў масавай інфармацыі.

**Кастусь Шыталь** — журналіст сайта *Westki.info*, блогер. Нашу размову я пачала з пытання: наколькі складана размаўляць з людзьмі, калі, напрыклад, рабіш матэрыял на сацыяльна-эканамічную альбо палітычную тэму. Ці лёгка людзі ідуць на кантакт?



— Па-рознаму бывае. Тыя, хто адмаўляе, спасылаюцца на магчымыя праблемы, якія могуць з’явіцца на працы ці ў іх дзяцей па месцы вучобы. Людзі рэальна баяцца помсты з боку ўладаў. Калі яны штосьці крытычнае распавядуць, то іх абавязкова вызавуць альбо да начальніка прадпрыемства, альбо ў райвыканкам для «выхавання».

***— Ты супрацоўнічаеш з некалькімі выданнямі. Ці залежыць кантакт з людзьмі ад таго, для якога рэсурса ты рыхтуеш матэрыял: сайта Westki.info, газеты «Вольнае Глыбокае» ці «Наша Ніва»?***

— Я ж толькі з «нячэснымі» СМІ і супрацоўнічаю, таму не ведаю, з чым параўнаць. Напрыклад, я ніколі і нічога не рабіў для «манюкі», так мясцовыя жыхары называюць газету аднаго з суседніх райвыканкамаў.

Што да сітуацыі ў правінцыі, прывяду яскравы прыклад. У вёсцы Сітцы Докшыцкага раёна людзі збіралі подпісы пад скаргай, што з калонак вясковага вадаправода цячэ іржавая вада. Некалькі дзясяткаў подпісаў перадалі ў райвыканкам, а потым прыехалі ў сельскі савет. І тут высветлілася, што маці адной з работніц сельскага савета таксама паставіла свой подпіс. І ёй зрабілі даволі суровую заўвагу: маўляў, што гэта такое, што вы тут да ўладаў звяртаецеся і нешта ад іх патрабуеце?!

Ці таксама ў Сітцах яшчэ быў выпадак, калі для перадачы «Падарожжы “Свабоды”» Зміцер Бартосік запісваў інтэрв’ю з вяскоўцамі. Потым на гэтых людзей таксама аказвалі ціск: кіраўніцтва высвятляла, хто з іх і што гаварыў. Зразумела, што гэта ні што іншае, як запалохванне людзей, гэта перашкода ў распаўсюдзе інфармацыі.

Да чаго толькі не даходзіць «дурноцце» начальства! Некалькі гадоў таму я ехаў праз вёску Вянюціна ў Докшыцкім раёне і ўбачыў, як разбураюць і закопваюць у вялікія ямы старыя хаты (адразу сем хат). Я зрабіў здымкі, пасля прыехаў у Глыбокае, каб паставіць адпаведны артыкул на сайт. Трэба было ўдакладніць, колькі сялян жыве ў гэтай вёсцы, і я пазваніў старшыні Сітцаўскага сельсавета. Аднак ёй, як высветлілася, ужо паведамілі пра мой візіт і яна адразу пачала з прэтэнзій: чаму вы фатаграфавалі на тэрыторыі майго сельсавета, не спытаўшы ў мяне дазволу? Урэшце рэшт яна адмовілася сказаць, колькі людзей жыве ў той вёсцы. Ды яшчэ пасля выказвала прэтэнзіі маім сваякам.

***— А як іншыя чыноўнікі рэагуюць?***

— Часам даюць каментары, часам — не, то бок абсалютна розныя сітуацыі. Усё залежыць ад таго, наколькі «выгадна» чыноўніку на нешта адказваць. Калі ён адчувае, што можа растлумачыць сутнасць нейкай праблемы, ды яшчэ калі гэта не закране яго рэпутацыю, то даволі часта можна атрымаць каментар. А вось калі чыноўнікі чуюць «нязручнае» для іх пытанне, то адразу адмаўляюцца ад размовы ці ўвогуле кідаюць трубку.

***— Наколькі я зразумела, у Докшыцкім раёне і, мабыць, не толькі, ёсць «пільныя людзі», якія паведамляюць мясцовай вертыкалі пра ўсіх «падазроных» людзей, у тым ліку і журналістаў.***

— Я не магу сказаць, ці існуе тут нейкая служба даносчыкаў, магчыма, людзі гэта робяць па ўласнай ініцыятыве. Аднак…

Неяк выкладчыца з Віцебскага ўніверсітэта прыехала ў вёску Кіякова таго ж Сітцаўскага сельсавета, каб пагаварыць і запісаць людзей сталага веку. Пакуль яна размаўляла з адным чалавекам, хтосьці патэлефанаваў у сельсавет і далажыў пра гэта. З сельсавета тут жа патэлефанавалі гэтаму селяніну і праз яго паклікалі да тэлефона тую выкладчыцу, пачалі дапытвацца: а чаго вы тут, а навошта, наша ж газета «Родныя вытокі» ўжо пісала пра Кіякова. То бок звярталіся з такімі дзіўнымі (для нармальнага чалавека) і абсалютна неадэкватнымі пытаннямі.

Яшчэ раскажу гісторыю, якая здарылася ў 2010 годзе, незадоўга да прэзідэнцкіх выбараў. Я тады быў слухачом навучальнага курса па фотажурналістыцы, які арганізавала ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў». Таму мусіў падрыхтаваць свой фотапраект як навучальную працу.

Я паехаў у вёску Глііннае. Там звярнуў увагу на тры закінутыя двухпавярховыя дамы, ля якіх шчыравалі людзі. Карціна — быццам тут пракацілася вайна. Я ўсё сфатаграфаваў і не паспеў адыйсці, як мяне спыніў участковы міліцыянт, прапанаваў сесці ў аўтамабіль і пачаў пытацца — хто я, адкуль і навошта я тут. Пасля ён тэлефанаваў у Докшыцкае РАУС, потым спрабаваў мяне прымусіць выдаліць здымкі. Даволі доўга мы з ім спрачаліся, урэшце ён сказаў: «Ладна, ідзіце». Дарэчы, участковага прывёз мясцовы землямер — на машыне, якая абслугоўвае сельсавет. Я у гэтага землямера спытаў: «У чым праблема, чаму вы выклікалі міліцыю?» А ён адказвае: «Ну, вот… скоро у нас президентские выборы, а вдруг вы из БНФ?» — Я яму кажу: «А калі б я і быў з БНФ? Гэта ж афіцыйна зарэгістраваная партыя». Ён прамаўчаў…

***Дробныя чыноўнікі наўпрост хаваюцца ці ўцякаюць ад журналістаў. Маўляў, не гатовыя адказваць на пытанні. Часцяком увогуле бесцырымонна кідаюць тэлефонную трубку.***

***— Наколькі «звычайныя людзі» давяраюць незалежным СМІ і журналістам?***

— Тут цяжка сказаць, але калі людзі бачаць, што незалежныя выданні напісалі праўду, распавялі пра іх праблемы, калі бачаць, што яны далі магчымасць выказацца простаму чалавеку, то, канешне, пэўная колькасць людзей, асабліва тых, што чытаюць незалежныя медыі, ім давяраюць. А дзякуючы інтэрнэту і таму, што многія праз спадарожнік глядзяць тэлеканал «Белсат», ёсць людзі, якія да незалежных журналістаў ставяцца вельмі прыязна. Бо яны ведаюць, што афіцыйная газета, якую яны называюць «манюкай», ніколі не напіша праўды пра іх жыццё-быццё. А *Westki.info*, або якое іншае незалежнае выданне напішуць.

Быў выпадак, калі ў калгасах не выплочвалі заробкі, задаўжалі на паўгады, ды і заробкі тыя не дацягвалі да ста даляраў. Дзяржаўная прэса, зразумела, пра гэта не пісала. Незалежныя ж журналісты ў гарадах больш цікавяцца тым, што адбываецца ў Мінску, а што, напрыклад, адбываецца па той бок Мінскай кальцавой дарогі — іх мала цікавіць. Я напісаў пра гэта на *Westki.info*, але не меў магчымасці паездзіць па вёсках, каб сабраць больш інфармацыі. Я спытаў пра гэту праблему ў сацыяльных сетках (докшыцкай і глыбоцкай суполках). Пад маім допісам 9 чалавек з розных рэгіёнаў пакінулі свае допісы ці каментары. Гэтыя факты я выклаў у сваім артыкуле. Пасля чаго мне напісаў карэспандэнт «Белсата» і спытаў, куды можна прыехаць, каб пагаварыць з сялянамі. Я падказаў знаёмага чалавека ў вёсцы Сітцы, яны прыехалі і знялі сюжэт. Праз вельмі кароткі час людзям пачалі выплочваць заробкі. Вырашэнне канкрэтнай праблемы заўсёды пазітыўна ўплывае на давер да журналістаў. Бо людзі бачаць, што журналісты цікавяцца іх праблемамі, а не абслугоўваюць чые-небудзь палітычныя або прапагандысцкія амбіцыі.

***— Як ты ставішся да таго, што людзі адмаўляюцца размаўляць з журналістамі, бо перакананыя, што пасля гэтага нічога ў іх жыцці, як і ў жыцці краіны, не зменіцца, і што маладым, маўляў, лепш з'ехаць за мяжу?***

— Людзі, асабліва ў правінцыі, уважліва назіраюць за тым, што насамрэч адбываецца. Бо калі ўзнікаюць якія-небудзь праблемы на рэспубліканскім узроўні, у тым жа Мінску, то ў Докшыцах, напрыклад, яны будуць адчувацца мацней утрая. Людзі назіраюць за тым, як растуць кошты ў крамах, за самадурствам мясцовых чыноўнікаў, за жорсткасцю ўлады, якой патрэбны ўсяго толькі лаяльныя выканаўцы, а не прафесіяналы. Яны бачаць, як гэта мясцовая ўлада лабіруе інтарэсы стратных прадпрыемстваў і арганізацый, як не дае развівацца прыватнай эканамічнай ініцыятыве, як б'е па галаве кожнага, хто спрабуе падняць галаву і нешта зрабіць без узгаднення з райвыканкамам. Да ўсяго працоўны люд атрымлівае вельмі нізкія заробкі.

Напрыклад, даярка ў Глыбоцкім раёне адпрацавала месяц без выхадных. Уставала ўначы, каб а чацвёртай гадзіне раніцы паспець на дойку, і атрымала за месяц… сорак даляраў! І такое насамрэч адбываецца, і такая даярка не адна, і не адзін такі калгас. Такая сітуацыя больш чым у палове гаспадарак, менавіта калі казаць пра Віцебскую вобласць. У іншых абласцях крыху лепшая сітуацыя. Калі людзі ўсё гэта бачаць, то зразумела, чаму яны кажуць пра тое, што ім няма на што спадзявацца ў гэтай краіне, што трэба з'язджаць.



# ИП: зарегистрировать не напасть, потом бы не пропасть

Оксана
НИКОЛАЕВА

**Трудоустройство через «через ИП» не такая уж редкость в разных сферах деятельности в Беларуси. В том числе в журналистике. Имея опыт открытия, работы и закрытия ИП, хочу поделиться им, рассказать о различных нюансах, на которые по разным причинам человек может не обратить внимания. Но незнание тех или иных норм, как известно, не освобождает нас от выполнения требований, заложенных в них.**

## Почему ИП популярны у нанимателей?

Говорят, если наниматель захочет уволить человека, он всегда найдет причину «виновного» поведения работника. Однако же если работник оформлен по контракту / трудовому договору, то он имеет и права, и возможность обжаловать произвол нанимателя. С ИП таких проблем нет: от его услуг можно отказаться в любой момент, не объяснять причин и не выплачивать выходное пособие.

Работники-ИП — серьезная экономия на налогах и социальном пакете. Ипэшнику никто не оплачивает отпуск, ему не оказывают материальной помощи по радостным или печальным событиям, что обычно предусмотрено в контракте



В 2012 году налог в ФСЗН обязаны были платить те ИП, которые имели доход. Точную сумму не помню, но налог был достаточно ощутимым при предложенной зарплате. За снятие наличных денег со счета нужно было платить банку 2% от суммы, 5% — подоходный налог. В общем, из 3 миллионов дохода, боюсь, что на руки и двух не оставалось, по моим подсчетам.

В итоге конкурсную руководящую вакансию закрыла коллега, у которой уже было оформлено ИП. А я вскоре нашла место в штате.

## Открыть ИП: пять дней и готово

Года через два, пройдя испытательный срок с оформлением договора подряда (что не совсем юридически верно, но лучше, чем устный договор), мне вновь пришлось думать об открытии ИП — попросили оформить, если хочу работать. «Ну, вы, конечно, можете отказаться, мы что-то придумаем»… Размышляла: интересная работа с хорошей зарплатой на улице не валяется, а если я откажусь от ИП, то на работу меня, скорее всего, возьмут, но уже записав «минус» в мой актив.

Тут нужно сказать, что главбух обещала делать вместо меня отчеты в налоговую и даже отвозить их туда. Зарплата тоже увеличивалась, так что даже с вычетом из нее 5% подоходного налога и 35% в ФСЗН сумма мне нравилась.

Стоит отметить, что с 1 января 2014 года ИП платят взносы в ФСЗН независимо от того, получали они доходы или нет, поэтому очень важно учитывать эти суммы (в ФСЗН) и помнить, что наниматели, заинтересованные в работнике-ипэшнике, с удовольствием расскажут о налоге в 5%, а об остальном — умолчат.

Ну а мне пришлось открывать ИП. В 2014 году это было очень легко — заявление, оплата госпошлины в размере 0,5 базовой величины и две фотографии. Дней через 5 свидетельство готово, даже в налоговую на учет «автоматом» поставили, в ФСЗН отправила документы по почте.

К слову, два раза мне нужна была справка об отсутствии задолженности

штатных работников. Одним словом, ИП, фактически работающий в штате организации, — юридически и социально ущемленный сотрудник.

## У ИП больше шансов получить работу?

Первый раз с вероятностью открытия ИП я столкнулась во время собеседования на должность редактора корпоративного журнала, который издавало рекламное агентство. Сейчас я думаю, что моя «кислая» реакция на ИП была тогда причиной непрохождения «кастинга». У меня был уже некоторый стаж сотрудничества с этим журналом, и чувствовала я себя там уважаемым и хорошо оплачиваемым автором.

Директор рекламного агентства, нужно отметить, совершенно не скрывал от меня того, что отпуск оплачиваться не будет, все налоги, отчеты в налоговую — мои заботы. Но зато — свободный график и пару явочных дней в течение месяца. Ах, да! Открытие ИП и счета в банке — плата за это тоже из моего кармана.




…Люстры-лужыны
проста ў вочы
Сотні сонцаў мне навялі.
І лягчэй,
і прыемней крочыць
Па сырой, адагрэтай зямлі.
І паветра здаецца мядовым,
І нябёсы —
чысцей і сіней.
Я іду — дваццацігадовы,
І дзяўчаты глядзяць на мяне…

«Я іду!» — назваў сваю першую кнігу паэт Ігар Шклярэўскі. Словамі «Я іду!» можна падпісаць той будатрадаўскі фотаздымак і ўвогуле той перыяд жыцця Міхася. Але ў першай яго кніжачцы «Вечны Зніч» зусім не было бураўкінскай захопленасці светам — тут было іншае:

Дакуль пакутаваць ад смагі,
П'ючы з пустога гладыша,
І жыць з жабрацкае сярмягі
Ты будзеш, родная душа?

А потым была бліскучая кніга літаратурных пародый «Розгі ў розніцу», дзе без увагі на званні і аўтарытэты на арэхі дасталося ўсім без вынятку: Р. Баравіковай, Р. Барадуліну, А. Вярцінскаму, Л. Галубовічу, Н. Гілевічу, Л. Дайнеку, С. Законнікаву, А. Лойку, Л. Рублеўскай, Я. Сіпакову, В. Шніпу дый шмат каму яшчэ. Кажуць, у той час паэты ледзьве не ў чаргу станавіліся да Скоблы — каб толькі заўважыў іх ды напісаў пародыю. «Пародыя і эпіграма — лепшая рэклама» — гэты Міхасёвы жарт памятаю з тых часоў.

Абарвала яблык з дрэва…
Еш, не бойся —
Я не Ева…
Я, на жаль, таксама грэшны,
Я таксама — не Адам.
*М. Маляўка*

Божа мой, якая тэма —
Ева ты, а я — Адам!
За маленькі сад Эдэма
Парк Чалюскінцаў аддам!
Абтрасём старанна дрэвы,
Што знаёмым, што — прадам…
Раптам чую голас Евы:
— Саграшым давай, Адам!
Стала радасна і мляўка…
Ева яблыкі зграбла:
— Ой, прабачце, вы — Маляўка?
Я — не з вашага рабра?..
Яблык кінула пачаты,
Развярэдзіла душу.
З той пары я (эх, дзяўчаты!..)
Толькі рыфмамі грашу!
*(«Непаразумеліся»)*

Адважна выдаўшы зборнік пародый, Скобла жартаваў: «Вось збяруцца паэты і адлупцуюць мяне!» А ў самога ў вачах — гарэзлівыя агеньчыкі…

Потым былі іншыя паэтычныя кнігі: «Вочы савы» і «Нашэсце поўні», дзе аўтар выяўляўся надзвычай лірычным і філасафічным…

Марк Шагал паміраў у ліфце.
Без радзімы на старасць год.
Фарбавала ліфцёрша кіпці
І гартала часопіс мод.
Без радзімы. З кавалкам хлеба.
З клеткаптушкай. Без жаўрука.
Кнопку з надпісам простым «неба»
Націскала яго рука.
Маляваў ён не ў вазе лотаць
І не вулічную любоў,
Ён вучыў чалавецтва лётаць,
З рук пускаючы, як галубоў!
На зямлі — адны каранціны,
Мытні ўсюды, і не прасі,
Каб вярнулі яго карціны.
І карціны — на небясі…
*(«Узнясенне Шагала»)*

Кнігу «Нашэсце поўні» завяршаў невялічкі іранічны раздзел, у якім некаму з надта ўжо пільных «чытачоў» убачылася «высокая» палітыка, і ў выніку кніга раптоўна знікла з усіх мінскіх кнігарняў. Хоць, на думку Скоблы, ніякай крамолы там не было — усе сюжэты былі спісаныя з натуры, як, напрыклад, верш «Недарэчнасць»:

Па тэлеку казаў прамову Сам.
Гадзіны дзве ён выступаў, не меней.
Было прасторна ў тэлеку вусам.
Сам абяцанні сыпаў поўнай жменяй.
Стаміўся люд — хто спаў, хто пазяхаў.
Тэлерыштунак, зноў жа, быў не новы.
Тэлеэкран раптоўна заміргаў
І сапсаваў канец яго прамовы.
А дыктарка вазьмі й залапачы,
Дарэшты не суняўшы хваляванне:
— Даруйце, дарагія гледачы,
За гэту недарэчнасць на экране!

«У нас літаральна ўсё зрабілася палітыкай! — гаварыў Скобла падчас тагачаснай нашай з ім гутаркі. — Размаўляеш па-беларуску — палітыка. Магілы знакамітых беларусаў наведаў на Дзяды — палітыка. Сцяг нацыянальны ў руках трымаеш — палітыка. Нашае жыццё абклалі чырвонымі сцяжкамі, на кожным з якіх надпіс: “Асцярожна, палітыка!” Невыпадкова тры месяцы таму мяне ў парку імя Горкага тры жлабы ў міліцэйскай форме шваркнулі тварам аб асфальт, надзелі кайданкі і прымушалі даваць паказанні па-руску, паколькі беларуская мова была ім незразумелая. Гэта таксама палітыка дзяржавы, у якой мы жывем. Так што у нашай краіне пражыць без палітыкі можа хіба што мыш пад венікам. Хоць многія абралі для сябе менавіта гэткі спосаб не жыцця — існавання».

Пасля чатырох гэтых кніг я, па шчырасці, чакаў ад Скоблы новых лірычных вершаў і літаратурных пародый, аднак нечакана ў яго бібліяграфіі з’явілася кніга зусім іншага кшталту — «Дзярэчынскі дыярыюш». Дзярэчын тут быў абраны ў якасці тэмы літаратурна-гістарычнага даследавання невыпадкова: як Нясвіж ёсць калыскаю роду Радзівілаў, гэтаксама Дзярэчын — радавое гняздо князёў Сапегаў. Сапегаў і — самога Міхася Скоблы, бо, нарадзіўшыся паблізу з Дзярэчыным, там ён хадзіў у школу.

Зрэшты, не толькі пра дзярэчынскую слаўную даўніну, ужо амаль забытую, апавядаў ён у тым сваім дыярыюшы — былі там і эсэ пра Наталлю Арсеньеву, Рыгора Барадуліна, Дануту Бічэль, Анатоля Вялюгіна, Ларысу Геніюш, Юрку Голуба, Пімена Панчанку, Масея Сяднёва…

Гэта я ўжо потым зразумеў, што Міхась ніколі не стаяў на месцы — ён пастаянна ўпарта крочыў наперад. І ў дадзеным выпадку гэта быў свядома абраны шлях — не ўласная паэзія, а найперш літаратурныя партрэты, развагі пра сучаснае прыгожае пісьменства, якія атрымалі працяг у аўтарскай праграме Міхася «Вольная студыя» на радыё «Свабода». Яго суразмоўцамі былі Рыгор Барадулін, Янка Брыль, Генадзь Бураўкін, Васіль Быкаў, Анатоль Вярцінскі, Ніл Гілевіч, Ігар Дабралюбаў, Янка Запруднік, Сяргей Законнікаў, Віктар Казько, Алесь Краўцэвіч, Адам Мальдзіс, Уладзімір Някляеў, Алесь Разанаў, Рыгор Сітніца, Анатоль Сыс, Міхась Чарняўскі — усіх немагчыма пералічыць, бо за амаль што два дзесяцігоддзі, што існуе праграма, у эфіры «Свабоды» прагучалі сотні дыялогаў, невялічкая частка якіх пазней увасобілася ў аднайменную «свабодаўскую» кнігу, а яе аўтар быў уганараваны ПЭН-цэнтраўскай прэміяй імя Алеся Адамовіча.

Зрэшты, недастаткова проста сказаць «дыялогі» («дуэлогі» — жартуе іх вядоўца), бо асабіста для мяне Скобла — найцікавейшы нават не інтэрв’юер, а суразмоўца (інтэрв’ю — гэта з галіны журналістыкі, Скобла ж ад самага пачатку быў больш чым журналіст). Яго энцыклапедычная дасведчанасць і эрудыяваная дапытлівасць уражвае ледзь не кожнага разу. Ягоныя гутаркі — практычна бездакорны ўзор такой вось разнавіднасці



На радзіме — у вёсцы Паляжын, каля роднай хаты. Разам з Эдуардам Акуліным, Нілам Гілевічам, мамай Леакадзіяй Уладзіміраўнай, Сяргеем Чыгрыным

філасофска-філалагічнай камунікацыі паміж людзьмі. Сабраныя ж разам, яны ствараюць шматкаляровы паліфанічны партрэт эпохі, які без усялякай натужнасці можа прэтэндаваць на тое, каб называцца гістарычнымі хронікамі нашага часу.

І хоць «свабодаўская» «Вольная студыя» даўно ўжо стала, мусіць, адной з галоўных справаў жыцця Міхася Скоблы, але разам з тым не менш галоўным было і іншае — даследаванне і выданне творчай спадчыны паўзабытых папярэднікаў, вяртанне імёнаў якіх у сённяшні літаратурны кантэкст зрабілася, без перабольшвання, справай гонару Скоблы. Ларыса Геніюш, Зоська Верас, Уладзімір Жылка, Алесь Салавей, Рыгор Крушына, Міхась Стральцоў, Мікалай Улашчык — некаторыя з гэтых імёнаў з пэўнага часу цесна атаясамліваюцца з імем Міхася Скоблы, бо нязрэдчас дзякуючы найперш яго руплівай даследчыцкай працы адбываецца іх другое літаратурнае нараджэнне. Адной толькі і дасюль афіцыйна не рэабілітаванай Ларысы Геніюш Скобла сабраў, пракаментаваў і выдаў сем кніг (любы з сумленных укладальнікаў і каментатараў добра ведае, якой неверагодна тытанічнай працы патрабуе падобная дзейнасць). Такія стараннасць, працаздольнасць і самаахвярная адданасць па сённяшнім часе мала каму ўласцівыя. Але для паэта Міхася Скоблы тая ж Ларыса Геніюш не толькі несумнеўны класік, але яшчэ, паводле яго ўласнага вызначэння, святы чалавек, чыя творчасць даражэй за яго ўласную. «Вершы і проза Геніюш — гэта як горан, дзе павінна гартавацца беларуская душа, — гаварыў мне неяк Міхась. — Увогуле, прынята лічыць, што большыня паэтаў — эгаісты, якія ўласную творчасць цэняць вышэй за ўсё. Я да такіх не належу».

І гэтае, здавалася б, нечаканае прызнанне ніяк не аднясеш да напышлівай патэтыкі, бо так яно насамрэч і ёсць. Тым больш што яшчэ адным неаспрэчным пацвярджэннем гэтых слоў з'яўляюцца дзве фундаментальныя паэтычныя анталогіі, шматстаронкавыя фаліянты — плён шматгадовай працы: «Краса і сіла: беларуская паэзія XX стагоддзя» і «Галасы з-за небакраю: паэзія свету ў беларускіх перакладах XX стагоддзя»…

Зрэшты, зноў жа няма нічога прасцей, чым сказаць: фундаментальны вынік карпатлівай працы. Прыкладна гэтак жа проста ўзяць дый крытыкануць гэтыя анталогіі (крытыкаў у горшым вызначэнні гэтага слова ў нас заўсёды болей, чым руплііўцаў). Але хай бы такі «крытык» сам узяўся дый склаў у адзіночку — прычым, як Скобла, безганарарна — хоць адну аналагічную анталогію, якая будзе і грунтоўнай, і фундаментальнай. Аднак на падобнае ва ўсе часы адважваюцца адзінкі, а тым больш у наш неспрыяльны для таго, няўдзячны час, у эпоху ледзь не павальнай грантаманіі (Рыгор Барадулін трапна заўважаў, што цяпер такі час, калі ў фразе «дзеці капітана Гранта» апошняе слова трэба пісаць з маленькай літары), да якой Скобла не мае абсалютна ніякага дачынення, бо ніколі не працаваў ні за якія гранты. Але нават і безграшоўе не магло быць важкай прычынай, каб ён спыніўся.

Увогуле, з часам нашаму пакаленню не пашанцавала. Як у біяграфіі славутага пакалення «шасцідзясятнікаў» была хрушчоўская «адліга», якая хутка змянілася брэжнеўскімі «прымаразкамі», гэтаксама і беларускае адраджэнне канца 1980-х — пачатку 1990-х было гвалтоўна спынена сацыяльна-эканамічнай стагнацыяй і бездухоўнасцю, якія хутка трансфармаваліся ў нацыянальны нігілізм і рэгрэс.



*З Рыгорам Барадуліным. Фота Сяргея Шапрана*

У выніку мы таксама аказаліся «страчаным» пакаленнем, бо маглі зрабіць значна больш і цікавей, чым здолелі зрабіць за гэтыя два з гакам дзесяцігоддзі. Але гэта, вядома, не прычына апускаць рукі. І як галоўны герой рамана Камю «Чума», добра разумеючы, што барацьба з чумой — адна бясконцая параза, не знаходзіў прычыны, каб кідаць гэтую ў вачах іншых недарэчную барацьбу, гэтаксама і Скобла не тое, што не знаходзіць — па-мойму, нават не шукае зачэпкі, каб добраахвотна капітуляваць. Ён быў і застаецца адданым даўняму пастулату Васіля Быкава: «Пытанне стаіць так: або літаратура, або нелітаратура. Сярэдзіны — няма».

І невыпадкова Генадзь Бураўкін хацеў бачыць менавіта Міхася рэдактарам сваёй паэтычнай кнігі «Нагаварыцца з зоркамі» і падчас нашых з ім апошніх гутарак, кажучы пра сучасную літаратуру, вылучаў разам з Уладзімірам Някляевым і Андрэем Федарэнкам і Міхася, тлумачыў: «Скобла, па-першае, майстар; па-другое, ён культурны, адукаваны і як паэт валодае даволі высокім майстэрствам». А яшчэ раней засведчыў сваё стаўленне да Міхася ў інскрыптах — да прыкладу, падпісаў свае «Выбраныя творы»: «Міхасю Скоблу, якога люблю, якому веру, на якога спадзяюся — па-сяброўску шчыра. Генадзь Бураўкін. 21.1.2010 г.» Ці на «Вершах пяці кніг»: «Дарагому Міхасю Скоблу, пакутніку за гэтую кніжку — з удзячнасцю і надзеяй на доўгае шчырае сяброўства. Генадзь Бураўкін. 19.10.2006 г.» І ўжо ў часе апошняй з ім сустрэчы Генадзь Мікалаевіч сказаў Міхасю на заўсёднае расстанне, чаму я сам быў сведкам: «Ты мой чалавек на гэтай зямлі». І дадаў: «Трымайся і не схібі, як ніколі раней не схібіў».

Гэтаксама і Рыгор Барадулін, калі рабілі з ім кнігу «Тры мяхі…», першым з сярэдняга літпакалення вылучаў Міхася. «Таму што гэта асоба, ён шырока адукаваны і не толькі добра адчувае паэзію, але і сам піша цікавыя вершы, — гаварыў дзядзька Рыгор. — І я лічу яго адным з самых цікавых паэтаў, таму што ён надта шчыры, а гэта вельмі важна ў паэзіі».

І, мусіць жа, невыпадкова Барадулін прысвяціў Скоблу менавіта гэты свой верш:

Да слова бруд не прыстае,
Бо слова незямнога кшталту.
Яму нябеснасці стае,
Каб быць
Непадуладным гвалту.
Ствараем слова, ці яно
Нас, недаствораных, стварае,
Так золь дабельвае радно,
І гоіць боль зямля сырая.
І колькі часу ні сплыло б,
Назвацца хоча ўсё нанова.
І думка свой гарачы лоб
Халодзіць даланёю слова.

А яшчэ сказаў зімой 2014-га ў адной са сваіх гукавых «прывітанак» Міхасю (апошнім часам дзядзька Рыгор па стане здароўя не мог выходзіць з дому, а паколькі я быў частым яго госцем, дык часам запісваў на дыктафон, як мы гэта называлі, гукавыя «прывітанкі», якія я пасля перадаваў тым, каму яны адрасаваліся): «Дарагі Міхась… Я вось думаю: якая рыфма на Скоблу — каб была сэнсавая і нармальная? Пакуль што мне прыйшло ў галаву толькі: цёпла — Скобла. Дык вось калі я думаю пра вас, мне цёпла, калі чытаю вас, мне таксама цёпла. Так што: Скобла і цёпла… Званіце, я буду заўсёды рад вашаму званочку… Ёсць такое вушацкае пажаданне: нас ні вада не размыець, ні свіння не разрыець. Будзем разам…»




*У Зэльве з «арыштаванай» дошкай у гонар Ларысы Геніюш. Фота Сяргея Чыгрына*

яму падалося нясціплым адкрываць уласную кнігу занадта ж узнёслым, на яго думку, водгукам Барадуліна. І гэтая гісторыя таксама добра яго характарызуе, бо хто яшчэ адмовіўся б ад пахвальнага слова, а тым больш народнага паэта і класіка?

І калі казаць яшчэ пра прадмовы, дык дарэчы будзе прыгадаць ўступнае слова Уладзіміра Някляева да новай паэтычнай кнігі Скоблы «Камізэлька для месяца», якая выйшла якраз напярэдадні яго 50-годдзя: «…Нельга пакінуць па-за ўвагай яшчэ адну якасць паэзіі Міхася Скоблы, якая ёсць і якасцю ягонага характару, і якую можна назваць: абарончасць. Прычым, апантаная: ён апантана бароніць сваё. Сваю мову, гісторыю, зямлю… Усё, што Беларусь, — у яе мінуўшчыне і будучыні:

Там больш спагады і святла,
Там вокны — шыбінамі ў неба,
Там ёсць алтар і ёсць святар,
Там ёсць званар і ўсё, што трэба.

У кнізе выбранага Міхася Скоблы, як ва ўпарадкаванай беларускай хаце, гаспадар якой ведае, што і калі ў жыцці можа спатрэбіцца, сапраўды ёсць усё, што трэба. Ці амаль усё… І ўсё на сваім, асобным месцы. Як на сваім, асобным месцы ў сучаснай беларускай паэзіі і сам аўтар кнігі — паэт Міхась Скобла».

Ён сапраўды на сваім, асобным месцы, і без яго сучасную беларускую літаратуру не тое што цяжка — немагчыма ўявіць. Без яго паэзіі, без ягоных эсэ і літаратурна-даследчыцкай дзейнасці. І шкада, і прыкра, што гэта практычна ніяк не прывечана і не адзначана не тое што на высокім дзяржаўным узроўні (зрэшты, як сказаў Васіль Сёмуха, прымаць узнагароду з гэтых рук было б абразай), а хоць бы Саюзам беларускіх пісьменнікаў. Увосень 2016 г. СБП выдаў запар ажно дзве Міхасёвы кніжкі — зборнік эсэ «Саркафагі страху» і прыгаданую вышэй «Камізэльку для месяца». Выдаў нечакана нават для аўтара, але ж выдаў толькі цяпер, калі і не выдаць было ўжо, мусіць, немагчыма… Усё ж шлях Скоблы — гэта найчасцей шлях самотніка, калі шануюць не пры жыцці, а пасля, дый таксама — не заўсёды…

…Неяк я запытаўся ў яго: ці магчыма, каб ён калі-небудзь пакінуў Беларусь? І Міхась адказаў, што не асуджае тых, хто робіць падобны выбар, але што датычыць асабіста яго, дык Беларусь ён пакіне назаўсёды ў адным-адзіным выпадку — у лодцы Харона.

І гэта не красамоўства, не пазіраванне — гэта яшчэ адзін штрых да партрэта Міхася Скоблы.

І ўжо апошнім разам, менш чым за месяц да свайго назаўсёднага сыходу, дзядзька Рыгор надыктаваў Міхасю апошнюю сваю гукавую «прывітанку»: «Мне дужа прыемна адчуваць, што ў мяне ёсць такі сябра (дазволю сабе такое сказаць — мой сябра), як Міхась Скобла. Міхась Скобла — гэта цэлая з'ява ў беларускай культуры — у той беларускай культуры, якая змагаецца і якую не так лёгка знішчыць. Міхась Скобла — гэта чалавек дапытлівы, чалавек, які ўсё хоча дапасці да сутнасці, да глыбіні. І калі ў нас будуць расці новыя Скоблы і Скоблікі, мы будзем багатыя. Можна нават такую меру багацця ўвесці: пяцьдзясят скоблікаў, сто скоблікаў, сто пяцьдзясят скоблікаў. Гэта як мера грамадскай вагі, як мера значнасці ў нашай культуры. Жыве Беларусь. І хай множыцца Міхась Скобла».

Пра стаўленне дзядзькі Рыгора да Міхася сведчаць і яго дароўныя надпісы на кнігах, напрыклад, на «Паэзіі» Марка Шагала, што выйшла ў перакладах Барадуліна:

«Пану Скоблу Міхасю
Я падпісваю Шагала.
Шчыра зычу, каб хапала
Моцы на скабліну ўсю!
24.I.98
Гародня».

Ці на кнізе «Аратай, які пасвіць аблокі»: «Зорнаму і непаўторнаму Міхасю Скоблу — з найвялікшым шчасцем, што знаёмы зь ім! Дзядзька Рыгор. 23.3.99. Менск».

Між іншым, невядомы факт. Некалі Барадулін напісаў прадмову да адной з ягоных кніг, але Скобла не стаў яе друкаваць з адной толькі прычыны:

# ПРАФЕСАР *крылатай мовы*



**Фразеалогія — самая жывая галіна на дрэве мовазнаўства. Гэта вам не коскі з працяжнікамі расстаўляць, не жаночыя і мужчынскія прозвішчы на -а скланяць, не склады на фанемы дзяліць. А бачыць і адчуваць, як мова смяецца, смуткуе, іранізуе, насміхаецца, жартуе, пагражае, кленічы насылае. У мудраслоўях — тысячагадовы досвед народу, як быццам дзясяткі пакаленняў аднячасова прыселі на прызбе і з табой пра жыццё-быццё гутарку вядуць. Як тут не прыслухацца?**



Міхась СКОБЛА

Іван Лепешаў больш за паўстагоддзя прыслухоўваўся да жывой мовы, учытваўся ў яе пісьмёны, прасейваў «адзінага слова дзеля тысячы тонаў слоўнай руды». І пачутае, вычытанае, прасеянае — занатоўваў, кампанаваў у слоўнікі. У сваёй гарадзенскай кватэры з гонарам паказваў мне рукапісную картатэку — каля 100 000 (!) картак. Кнігі чытаў з алоўкам, яго цікавіла ўжыванне таго ці іншага фразеалагізму ў розных кантэкстах. Мабыць, не было такога пісьменніка, у якога ён не адшукаў бы моўнай залацінкі. Ён мог не звяртаць увагі на рыхлы сюжэт, на безаблічнасць герояў, на прадказальнасць аўтарскай задумы. Ён заходзіў у кнігу, нібы ў пагудасты лес, і пускаў сваю думку, як ганчака па следзе — у пошуках крылатых выразаў.

Сем тысячаў фразеалагізмаў зафіксавана і растлумачана ім. Тут Івану Лепешаву роўні не было. Яго слоўнікі часам крытыкавалі — за расійскія ўплывы і запазычанні. Памятаю, пра гэта мы неаднойчы гаварылі з яшчэ адным знаным мовазнаўцам з Гарадзенскага ўніверсітэта Паўлам Сцяцко, які прытрымліваўся больш радыкальных поглядаў у лексікаграфіі. Слоўнікі Сцяцко — гэта мова, якая прайшла праз своеасаблівы чысцец, і ў гэтым іх каштоўнасць. Слоўнікі Лепешава фіксуюць сучасны стан мовы — з усімі яе хваробамі і адхіленнямі ад нормы. Але насамрэч патрэбныя і тыя, і другія. Каб паставіць дыягназ, неабходна ведаць гісторыю захворвання.

Сваю галоўную працу — двухтамовы «Слоўнік фразеалагізмаў» (2008) — Іван Лепешаў падараваў мне з такім аўтографам: «Шаноўнаму Міхасю Скоблу з найлепшымі пачуццямі падпісваю гэты словазбор, з якога, на жаль, цэнзары выкінулі 15 аўтараў (і вас у тым ліку)».

Хто ж паддаў цэнзуры лепешаўскі слоўнік? Фактычна, цэнзар быў адзін — пыхлівы і графаманісты Г. П. — галоўны рэдактар дзяржаўнага выдавецтва, дзе той слоўнік меўся выйсці. Раней той рэдактар рэдагаваў камуністычную газету і да цэнзуравання матэрыялаў яму было не прывыкаць. Смела пішу «цэнзуравання», бо і сам меў магчымасць пераканацца ў метадах працы Г. П.

У свой час для таго ж выдавецтва я склаў анталогію беларускай паэзіі, яна была запланаваная ў серыі «Школьная бібліятэка». Прынёс на візу галоўнаму рэдактару. Той учытаўся ў змест… Праз імгненне я ўжо шкадаваў, што звязаўся з такімі выдаўцамі. З анталогіі вылятали паэты толькі

за тое, што былі святарамі, выкасоўваліся вершы, прысвечаныя не тым падзеям і асобам. Агаломшаны, я спрабаваў штосьці адстаяць, кагосьці вярнуць — безвынікова. Службова-чыноўніцкая пыха («я прызначаны на пасаду прэзідэнтам і павінен сачыць!») біла цераз край, маіх аргументаў ніхто не слухаў.

Прафесара Лепешава таксама ніхто не паслухаў. Сабраны цягам паўстагоддзя выніковы слоўнік быў разгромлены тым самым Г. П. гэтак жа бесцырымонна, як і мая бяскрыўдная анталогія. Згледзеўшы ў іменным паказніку прозвішчы «нячэсных» пісьменнікаў, рэдактар-цэнзар распарадзіўся ачысціць слоўнік спачатку ад іх. Алесь Пашкевіч? Ён жа нелаяльны да ўлады Саюз пісьменнікаў узначальвае. Прэч. Аляксандр Лукашук? Ён жа на радыё «Свабода» працуе. Далоў. Святлана Алексіевіч? Яна ж па замежжах туляецца і на радзіму паклёпнічае. Выкінуць. Сяргей Дубавец — таксама свабодавец. Выкрасліць.

І выкрэсліваліся імёны з такімі ці падобнымі характарыстыкамі. Да пералічаных прадказальна дадаліся Ларыса Геніюш, Наталля Арсеннева, Масей Сяднёў, Уладзімір Някляеў, Сяргей Законнікаў, Уладзімір Арлоў, Сяргей Астраўцоў, Вінцэсь Мудроў, Барыс Пятровіч…

Аўтары выкасоўваліся, а цытаты з іхніх твораў часам заставаліся. Не акадэмічны слоўнік атрымліваўся, а зборнік ананімак.

Пасля расправы над пісьменнікамі рэдактар-цэнзар абрынуў свой гнеў на перыядычныя выданні. У выніку са спісу крыніцаў вылецелі часопіс «Дзеяслоў» і газеты «Наша Ніва», «Народная Воля», «Наша слова», «Свабода», беластоцкая «Ніва».

Пасля экзекуцыі над перыёдыкай настала чарга ўласна фразеалагізмаў. Тут ужо рэдактар-цэнзар разышоўся не на жарт. Не выкасоўваў — касіў. Размашыста і пад корань. Усё, што нейкім чынам пасягала на ягонае камуняцкае мінулае. І зазеўралі ў жывой тканіне слоўніка новыя шматлікія лакуны.

«Архіпелаг ГУЛАГ — канцэнтрацыйныя лагеры ў перыяд сталінскага таталітарызму»; «завезці да белых мядзведзяў — адправіць у канцлагеры на поўначы Расеі»; «чырвоны памешчык — старшыня калгасу як гаспадар з неабмежаванай уладай»; «кактэйль Молатава — бутэлька з гаручай сумессю»; «абкласці чырвонымі сцяжкамі — ствараць скрайне неспрыяльныя ўмовы для чыёйнебудзь дзейнасці»…

Кожны з нас безліч разоў чуў гэтыя ўстойлівыя выразы. Але іх па волі невука на пасадзе Г. П. няма ў слоўніку Лепешава. Ні выразаў, ні тлумачэнняў да іх, напісаных — трэба аддаць належнае аўтару — мовай простай і дакладнай.

Што відавочная ці прыхаваная антысавеччына асабліва раздражняла таварыша Г. П. — гэта я зразумець магу. Не магу ўцяміць, чым пільнавокі і чуйнавухі галоўны рэдактар (супрацоўнікі выдавецтва казалі — угалоўны) кіраваўся, калі выкідаў са слоўніка, напрыклад, такое чатырохрадкоўе Рыгора Барадуліна: «Няхай жыве народ / у думцы, згодзе, бунце — / яму замок на рот / павесіць не спрабуйце»? Як па мне — запамінальная, проста афарыстычная ілюстрацыя да вядомага фразеалагізма. І аўтар — народны паэт, які, як і належыць, доляй народу пераймаецца. А ўсё ж не пройдзе! Паэта ў слоўніку замянілі на другога. Каб змаглі, мабыць, і народ замянілі б.

Усяго са слоўніка галоўным-угалоўным рэдактарам ды яго памочнікамі было выкінута больш за паўтысячы (!) цытатаў. Дзясяткі і дзясяткі фразеалагізмаў засталіся без пацверджанняў. Скалечаны слоўнік выйшаў у свет, не прынёсшы аўтару заслужанай радасці. Якой там радасці — стаў несціхальным пажыццёвым болем аўтара. У дадатак выдавецтва падманула яго з ганарарам.

Магчыма, таварыш Г. П. у адносінах да Івана Лепешава дзейнічаў так брутальна, бо ведаў: пры ягонай любімай камуністычнай уладзе той пакаштаваў гулагаўскай баланды, ці з'ездзіў да белых мядзведзяў, як сам напісаў у сваім слоўніку. Гэта цемнаватая старонка ў жыццяпісе гарадзенскага прафесара. І асвятляць яе ён чамусьці не стараўся. Увогуле неяк не спалучаліся яны — Лепешаў і ГУЛАГ. Нездарма ў даведніку Леаніда Маракова «Рэпрэсаваныя настаўнікі» персаналія «Іван Лепешаў» — нібы пра нейкага іншага Лепешава, які таксама нарадзіўся ў кастрычніку 1924 года ў вёсцы Іскозы на Дубровеншчыне, таксама працаваў настаўнікам у мястэчку Свіслач, таксама быў 09.08.1949 арыштаваны, 12.10.1949 асуджаны, 23.09.1963 рэабілітаваны, чый «далейшы лёс невядомы». Так нібыта і пазначана ў асабовай справе № 8034п, што зберагаецца ў архіве КДБ па Гродзенскай вобласці.

Справа ляжала на паліцы, а былы гулагавец з «невядомым лёсам» штодня хадзіў міма таго архіва на працу — у Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы.

Я паказваў Івану Якаўлевічу тую таямнічую персаналію. Ён адказаў, як і належала прафесару фразеалогіі, устойлівым выразам: «Бач, нават яны ў трох соснах заблукалі». І было незразумела, хто заблукаў — Леанід Маракоў ці КДБ…

Іван Лепешаў працаваў, не адчуваючы гадоў за плячыма. За свае амаль дзевяноста толькі сорак два дні паспеў пабыць пенсіянерам. Марыў перавыдаць свой слоўнік — без цэнзурных скаротаў, з гулагаўскімі, праверанымі на ўласнай практыцы, фразеалагізмамі.

Падчас нашай апошняй сустрэчы скрушна ўздыхаў: «З беларушчынай горай было толькі за царызмам». Уздыхаў і зноў схіляўся над сваёй статысячнай картатэкай, дзе апервалася крылатымі выразамі, каб таксама стаць крылатай, мова. Зрэшты, гэта не так і мала — зрабіць сваю мову крылатай. Каб — крылатая — і за чырвоныя сцяжкі, і з кіпцюроў белых мядзведзяў змагла вырвацца.

Статистическая справка. Самый большой урожай картофеля в Беларуси (БССР) был получен в 1979 году — 15,3 млн тонн. Можно сказать, на паритетных началах: в колхозах и совхозах собрали 7,6 млн тонн «второго хлеба», в хозяйствах населения — 7,7 млн тонн.

# Нигде нет,

Фифти-фифти. Этот паритет (хотя население всегда производило картофеля больше, чем колхозы) длительное время сохранялся (в 1990 году было произведено 8,6 млн тонн, в том числе 46% — колхозами). Но вскоре он решительным образом изменился в пользу хозяйств населения и фермерских хозяйств. В 2000 году урожай составил 8,7 млн тонн, но производство в колхозах сократилось до 1,2 млн тонн, а доля — до 13,6%.

В 2015 году производство картофеля упало до 6 млн тонн во всех хозяйствах населения, а колхозы собрали только 872 тыс. тонн. В ушедшем 2016 году благодаря улучшению погодных условий, по экспертным оценкам, производство увеличилось до 7 млн тонн, в колхозах — до 1 млн тонн.

Таким образом, производство картофеля в Беларуси во всех хозяйствах населения сократилось более чем вдвое, а в колхозах и совхозах — в 6–7 раз. Это достойно не просто удивления, а требует объяснения, понимания, оценки и выработки практического отношения к этому «событию». Что делать, как делать, зачем делать, кому делать, кого винить, кого наказывать?

## В борьбе за чипсы

Приходится, например, удивляться, как это мы живем, утратив половину своего патентованного «второго хлеба», который в прежние, не очень сытные времена порой заменял даже «первый хлеб». Допустим, за неделю до стипендии или за три дня до аванса. Сегодня у большинства те же постоянные денежные затруднения, но не потому, что картошка в полях не родит. Наоборот, при прежнем картофельном изобилии в колхозных закромах — в магазинах хороший картофель купить было сложно, а сегодня с этим нет никаких проблем. Хотя, если верить статистике, в снабжении населения этим продуктом должны быть трудности.

А их нет.

К слову, везде в широком ассортименте продаются «заморские» чипсы, производство которых в свое время так и не освоила пищевая промышленность БССР.

В общем, почва для размышлений есть, даже философских: «Не оказались ли годы, потраченные на борьбу за чипсы, бесцельно прожитыми?»

Выходит, что так оно и есть. Владимир Высоцкий всегда стремительно реагировал на всякую злобу дня. Поэтому, вероятно, в 1972 году он сочинил один из своих самых «социально-экономических» текстов и соответственно песню «Товарищи ученые..!», когда борьба партии и правительства за интенсификацию сельского хозяйства достигла апогея.

В этот список закономерно попадало картофелеводство, по определению, а роль инициатора, мотиватора и «застрельщика» во всесоюзном социалистическом соревновании за более весомый урожай отводилась БССР. Мол, за белорусами и другие потянутся. В СССР интенсификация производства понималась как более полное использование скрытых внутренних резервов. Но поскольку соответствующей техники, даже картофелекопалок не хватало, не говоря о комбайнах, основная ставка делалась на человеческий фактор. Однако оказалось, что имеющихся в наличии колхозников для уборки картофельных полей катастрофически не хватало. Поэтому колхозники, убедившись в нереальности поставленной задачи, попросту отказались ее выполнять. Работники колхозов 1970-х годов руководствовались не столько приказом председателя, как при Сталине, сколько соображениями собственной выгоды, на которую их ориентировал переход от оплаты труда в трудоднях, на денежную форму. Но поскольку расценки на полевых работах оказались мизерными, то всегда важные для колхозников собственные «сотки» стали для них абсолютно приоритетными.

## Из орудий труда — лопата

И так уж получилось, что к началу 80-х колхозники практически отказались убирать колхозные картофельные поля. Они не тунеядствовали, как сказали бы нынешние руководители, а реально на своих грядках производили больше половины всего получаемого в стране картофеля. Ежегодно по 7–8 млн тонн, по дедовским технологиям и с традиционной агротехникой, которые отличались минимумом материальных ресурсов, но требовали очень высоких трудовых затрат. Поскольку

# а у нас есть!



Константин
СКУРАТОВИЧ

каждый сельский двор имел свои собственные сотки, то осенью уборкой занимались не менее одного миллиона человек. А с учетом нетрудоспособных (в сельских семьях всегда работали и дети, и старики), вероятно, работников было намного больше.

Что собой представлял тогдашний частный сектор в белорусском картофелеводстве? С одной стороны, он был малоземельным, ограниченным порой десятью сотками, поэтому производство было преимущественно натуральным. Но в определенной мере и мелкотоварным, поскольку часть продукции продавалась на колхозных рынках, использовалась для откорма свиней, которые «сдавались» тем же колхозам или государству, или же мясо предназначалось для продажи. С другой стороны, это было подсобное производство, поскольку приусадебные земельные участки выделялись исключительно за работу в колхозе. А размеры их ограничивались, чтобы колхозники не вздумали разбогатеть и не переродились в кулаков, чтобы не отказались от работы в колхозах, где низкая оплата труда оправдывалась наличием у колхозников приусадебного участка.

Такая вот незатейливая социально-экономическая диалектика.

Что еще? Из орудий труда, которыми могло располагать приусадебное хозяйство, были простейшие: коса, вилы, лопата, пила, топор, примитивные механизмы и приспособления. Частник мог не иметь рабочего скота, тем более трактора. Тем не менее частный сектор в сельском хозяйстве отличался устойчивостью, большей эффективностью и был вполне конкурентоспособным в сравнении с колхозами. Это убедительно демонстрировали тогдашние колхозные рынки, где сельчане продавали свою продукцию по ценам, устанавливаемым спросом покупателей.

В колхоз пойдем, но работать не будем. Это присловье возникло еще при коллективизации, которое определяет всю историю отношений колхозников к своей артели. В случае крайней необходимости (чтобы, например, получить участок под сенокос, лошадь для выполнения хозяйственных работ и т. д.) колхозник послушно отрабатывал установленный минимум трудодней, насколько мог, хотел и умел, был обычным поденщиком. Вне колхоза он становился хозяином, который самостоятельно принимал непростые решения и нес ответственность за их выполнение. А про колхозные дела пусть думает начальство.

Те 6–7 млн тонн колхозного урожая приходилось убирать по-партийному: всем миром, не ожидая милости от природы, невзирая на погодные условия. Начиная с сентября в работу включались многочисленные партийные, комсомольские и профсоюзные комитеты, исполкомы всех уровней, администрации заводов и фабрик, школ, профтехучилищ, техникумов, вузов, академических институтов и многочисленных отраслевых НИИ. Для уборки требовалось отправить сотни тысяч людей, отвлекая на несколько недель кого от учебы, кого от основной работы. Требовалось обеспечить их всем необходимым для работы, питания, быта, досуга, лечения. Частично это финансировалось колхозами, частично «шефскими организациями», частично из бюджетных средств, предусмотренных на случай таких стихийных бедствий. За шефами целиком сохранялась заработная плата, питание было бесплатным, что позволяло малооплачиваемым лаборантам, техниками, инженерам и младшим научным сотрудником экономить на повседневных расходах. Поэтому многие охотно ехали, зная, что получат помимо «тринадцатой зарплаты» в конце года еще и эту — «четырнадцатую», колхозную.

## Ученых можно послать…

Развитой социализма во всей своей красе… Фактически применялся принудительный труд, но он же оплачивался, и как-то никому не приходило в голову не поехать, сославшись на простое нежелание. О студентах речи не было вообще, поскольку обязательная поездка на картошку приравнивалась к курсу молодого бойца (как в армии).

Суть ситуации точно определялась как добровольно-принудительная. И школа реальной жизни. Например, молодому специалисту, который по распределению приходил на предприятие, опытные товарищи объясняли — забудьте все, чему вас учили в институте. Но первокурсник, который впервые «попадал на картошку», мог бы сделать очень полезный вывод для будущей жизни — в институте вообще лучше не верить преподавателям, поскольку их теоретические рассуждения о преимуществах социалистической экономики вообще не совпадают с реальностью.

Светлана Аллилуева, в последней раз покидая СССР, ухмыльнулась: «В космос тянетесь, а картошку копаете как в позапрошлом веке». Действительно, надежной и эффективной техники для механизации уборки картошки как не было при развитом социализме, так нет и в нашем социальном государстве. Научно-технический прогресс обходил многие отрасли народного хозяйства стороной, в том числе картофелеводство. Но нельзя недооценить роль ученых в уборке картофеля, увековеченной Высоцким и многими его коллегами в стихах, прозе, в хроникально-документальных и художественных кинолентах. Кто-то из классиков советовал заинтересованным для понимания природы капитализма больше читать книги Бальзака, чем труды вульгарных экономистов.

Безусловно, в этом деле воображение имеет исключительное значение. Например, есть статистические факты. Ежегодно колхозы собирали до 8 млн тонн картофеля, но не с помощью колхозников, а с «товарищами учеными, доцентами и кандидатами». Никогда в истории не было такой страны, где в уборке урожая было задействовано такое количество интеллектуально изощренных людей. Ни одна страна не могла подготовить такое количество специалистов высшей квалификации, тем паче не могла себе позволить ежегодно отправлять их на спасение картофеля.

Как отмечали специалисты, социалистическая экономика обладает огромным мобилизационным материалом. Если понадобится, ученых можно послать… куда угодно. Если есть колхозы, которые постоянно нуждаются в кадрах, то хорошо, что есть ученые. Более того, создается впечатление, что колхозы и создавались для сезонного использования специалистов всех мастей на полевых работах.

И что такое здравый смысл, что такое целесообразность в экономической деятельности? Прочитал недавно книгу молодого российского историка Михаила Морукова «Правда ГУЛАГа из круга первого». Автор утверждает, что научно-техническая деятельность различного рода «шарашек» стала основой для прорыва советской науки и индустрии к новейшим высокотехнологическим разработкам и открытиям и в первую очередь в оборонной промышленности. По его мнению, «Правда ГУЛАГа» заключается в том, что изоляция ученых, разработчиков и рабочих мастеров в местах лишения свободы стала необходимым и единственно правильным условием для достижения Победы. Иными словами, альтернативы не было? Но достоверно только одно — новое вооружение действительно изобретали заключенные конструкторы. Однако в других странах конструкторов не сажали, ничего подобного ГУЛАГу нигде не было, а вооружение создавалось не хуже, чем в тех же «шарашках».

## Школьников можно послать вслед за учеными

В нашем случае достоверно и то, что колхозную картошку копали «ученые», а если бы их не отправляли (больше было некому копать!), то картошка бы сгнивала. А что было бы со страной? Как впоследствии оказалось, ничего плохого со страной не произошло бы. Уже в 1992 году, когда экономика перешла на рыночные отношения, колхозы резко сократили посадки картофеля по той простой причине, что привлекаемым с предприятий работникам надо было платить из собственного кармана. А предприятия тоже не могли сохранять за командированными на уборку заработную плату.

Колхозы должны были сами выплачивать стипендии и за своей счет содержать студентов, и ситуация нормализовалась сама по себе. А позже по финансовым соображениям ликвидировали абсолютное большинство отраслевых НИИ, которые имели отменные результаты в сельском хозяйстве, но не преуспели в научно-техническом прогрессе.

Конституция Беларуси 1994 года внесла полную ясность в вопрос трудовых отношений работника с любым нанимателем, будь это частное лицо, организация или государственная структура, установив, что (статья 41): «Принудительный труд запрещается, кроме работы или службы, определяемой приговором суда или в соответствии с законом о чрезвычайном и военном положении». Бог пока обносил Беларусь экстремальными ситуациями, требующими введения чрезвычайного положения, но остаются рудименты прошлой системы. В их числе и нерентабельные колхозы, с которыми никто не знает что делать. Они производят около 1 млн тонн картофеля (в 6 раз меньше, чем население), но не могут его самостоятельно убирать. По причине хронического и растущего безденежья.

Повторюсь, техники нет, кроме копалок. Для такого мизерного количества урожая для перевозки клубней подходили бы обычные конные «грабарки» и довоенные «полуторки». Но на поля загоняются МАЗы, способные перевозить крупногабаритный груз и строительные материалы. Мощные машины ну никак не предназначены для загрузки корзинками и ведрами, которые наполняют школьники. Но сельские школьники остались главными работниками, которым ежегодно предписывается собирать миллион тонн колхозного урожая.

А раньше были «товарищи ученые…»

# Сябра БАЖ Таццяна Ткачова — пераможца Міжнароднага фестывалю *Vilniaus fotografijos ratas*

**Таццяна Ткачова перамагла ў Міжнародным фестывалі *Vilniaus fotografijos ratas*.**



У конурсе «Хатняе заданне» для маладых фатографаў да 30 год, дзе спаборнічалі 52 асобы з 59 фотагісторыямі, наша Таццяна перамагла з фотагісторыяй «Маластоўка». Гэта гісторыя пра вёску, ў якой вырасла Таццяна Ткачова, пра перамены, якія адбыліся ў месцы, дзе прайшло яе дзяцінства.



Галоўны прыз *Vilniaus fotografijos ratas* атрымаў грэчаскі фатограф Георгас Мотафіс (*Giorgos Moutafis*) з фотагісторыяй пра бежанцаў.

Падчас цырымоніі ўганаравання Георгас Мотафіс сказаў, што шкадуе аб перамозе — бо шмат людзей, якія ўцякалі ў Еўропу ад вайны, загінулі на гэтым шляху. Мотафіс адзначыў, што гэтая перамога ёсць знакам памяці загінулым.

***Паводле прэс-службы ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»***






EUROVISION ACADEMY

Удзельнікі курса падвышэння кваліфікацыі «Яшчэ дзесяць крокаў да прафесійнай журналістыкі» атрымалі дыпломы, засведчаныя кіраўнікамі прафесійнага трэнінг-цэнтра ***Eurovision Academy***, Міжнароднай федэрацыі журналістаў і БАЖ.

Навучэнцы набылі паглыбленыя веды і практычны досвед па актуальных прафесійных праблемах. Дыплом-сертыфікат з’яўляецца міжнародным пацвярджэннем журналісцкай кваліфікацыі.

Для зацікаўленых: увосень БАЖ мяркуе распачаць другі набор на курсы падвышэння кваліфікацыі.

БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ